PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (2064) ГОД XL БЕЛАСТОК 3 СНЕЖНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Паміж зямлёю і небам.* **Фота Аляксандра Вярбіцкага**

## З любові да беларускай песні

Размова з беластоцкім паслом Сейма РП ад Саюза левых дэмакратаў **Станіславам Малішэўскім.**

*— Вы ў апошнім часе ўдзельнічалі ў шэрагу беларускіх культурных мерапрыемстваў? Ці, як чалавек збоку, маглі б Вы паспрабаваць даць ацэнку беларускай культуры на Беласточчыне?*

— У мінулым годзе быў я на некалькіх фэстах, арганізаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам, а сёлета амаль на ўсіх (апрача аднаго). Я прымаў удзел таксама ў іншых формах дзейнасці БГКТ, бываў на штотыднёвых сустрэчах на Варшаўскай, на дасканала сарганізаваным навагоднім балі, на свяце „Мастацкія сустрэчы Беласток—Гродна". Пра беларусаў, іх свядомасць і культуру, я магу гаварыць толькі на падставе таго, што бачым на гэтых імпрэзах.

*— На апошнім пленуме Галоўнага праўлення БГКТ Вы, аднак, такую ацэнку далі, сцвярджаючы, што з беларускіх арганізацый актыўнае адно Таварыства, іншыя не праяўляюць дзейнасці.*

— На пасяджэнні, якое сумавала гадавую культурную дзейнасць, я сказаў больш-менш так. Арганізатарам усіх беларускіх мерапрыемстваў, у якіх я прысутнічаў, было Беларускае таварыства. Што існуюць іншыя арганізацыі, я даведаўся толькі ў час пабыўкі на Беласточчыне Сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей. На жаль, мне, як паслу, не давялося сустрэцца з іхняй дзейнасцю. Ніхто мяне туды не запрашаў, можа не хацелі, забылі, або не мелі на гэта часу. Можа быць, што яны нешта робяць, але я, як пасол, які хоча рэпрэзентаваць усю Беласточчыну, не меў нагоды ў гэтым пераканацца. І таму я магу казаць,

*Працяг на стар. 8*

## Мы ў Еўропе

Далучыць Польшчу да заходнееўрапейскіх структураў дамагаюцца ўсе выдатныя палітыкі гэтай краіны. Апрача скінаў, крайніх нацыяналістаў, пээсэляўцаў, клерыкалаў і артадаксальных камуністаў, усе партыі і палітычныя групоўкі згодным хорам заяўляюць, што для эканамічнай будучыні краіны неабходная інтэграцыя ў рамках Еўрапейскай эканамічнай садружнасці, а для нацыянальнай бяспекі — прысутнасць у Паўночнаатлантычным пакце. Нацыяналісты не хочуць еўрапізацыі Польшчы, бо паводле іх уяўленняў краіна страціць незалежнасць і свой нацыянальны характар. Скіны і ўсялякія нацыяналістычныя фронты крычаць, што еўрапейская інтэграцыя абазначаць будзе гаспадарку пад нямецкім, а банкі пад яўрэйскім кантролем. Клерыкалы баяцца заходнееўрапейскага лібералізму і вальнадумства, якое прывядзе да таго, што апусцеюць касцёлы, так як у Францыі, Нямеччыне, Англіі, а апошнім часам таксама ў Іспаніі. Палохае перш за ўсё прыклад гэтай апошняй краіны, якая пасля далучэння да еўрапейскіх арганізацыяў зусім патраціла каталіцкі характар, а ксяндзы сталі звычайнымі грамадзянамі. Зусім іншыя прычыны прымушаюць пратэставаць супраць інтэграцыі з Еўрапейскай эканамічнай садружнасцю лідэраў сялянскай партыі ПСЛ. Сельская гаспадарка ў Польшчы існуе ў структурах быццам з дзевятнаццатага стагоддзя. Хаця дамінуе ў гэтай галіне прыватная ўласнасць, ніколі так сапраўды вёска не ўключылася ў механізм капіталістычнага рынку. Можа за выключэннем некаторых рэгіёнаў — напрыклад Познаньшчыны. У Еўропе харчовыя прадукты рэлятыўна нашмат таннейшыя, чым у Польшчы, тады адкрыццё межаў выклікала б сур'ёзныя праблемы ў польскай сельскай гаспадарцы. Нідзе таксама ў Еўропе класавыя партыі — а такой з'яўляецца ПСЛ — не маюць такіх уплываў, як у Польшчы. Ніхто ў Бруселі не зразумеў бы філасофіі такіх палітыкаў, як Паўляк ці Стронк.

Для сапраўдных камуністаў Захад надалей асацыюецца з такімі тэрмінамі як: імперыялізм, эксплуатацыя рабочага класа, маральная гніль. Гэтая апошняя „прыкмета Захаду" палохае таксама ўсялякіх нацыяналістаў і скінаў.

Праўдападобна праз некалькі гадоў Польшчу далучаць да еўрапейскіх арганізацыяў, у дзверы якіх польскія палітыкі стукаюць ад часу змены палітычнай арыентацыі краіны ў 1989 г. Узнікае пры гэтай нагодзе пытанне, што будзе гэта абазначаць для нацыянальных меншасцяў, а асабліва для нас, беларусаў. Па-першае, варта заўважыць, што ўва ўсе еўрапейскія структуры прымаюць толькі тыя дзяржавы, якіх улады паходзяць з дэмакратычных выбараў, і ў якіх шануюць правы меншасцяў. Ёсць тады нейкая гарантыя, што калі яшчэ наша меншасць да канца не асімілюецца, будзе яна мець большыя магчымасці развіваць сваю культуру і нацыянальную тоеснасць.

Але ёсць і адмоўныя бакі такога ходу падзей. Ніштo не паказвае, што ў гэтым напрамку пойдзе палітыка Беларусі. Усё сведчыць аб тым, што ў недалёкай будучыні пару дзесяткаў кіламетраў ад Беластока будзе мяжа паміж двума палітычнымі і мілітарнымі блокамі. З практыкі ведама, што такія межы амаль непрасякальныя без шматлікіх паперкаў, пячатак, якіх атрыманне залежыць ад волі легіёна ўраднікаў. Ёсць пагроза, што каб паехаць, напрыклад, гісторыку з Беластока на навуковую канферэнцыю ў Гродна, трэба будзе на месяц раней пачынаць афармляць усе дакументы, а мытнікі на мяжы замест спірту і сігарэтаў будуць шукаць у нашых сумках кніжак і часопісаў ды ўважліва ім прыглядацца. Але магчыма, што ўсё будзе інакш, чым у час халоднай вайны на мяжы паміж Варшаўскім і Паўночнаатлантычным дагаворамі. Гісторыя трыццатых гадоў вучыць таксама, што даволі складанай робіцца сітуацыя нацыянальнай меншасці, пражываючай на памежжы, калі паміж суседнімі дзяржавамі ненайлепшыя адносіны. І зноў можна толькі спадзявацца, што апрача канстытуцыйных гарантыяў еўрапейскія нормы і пагадненні таксама спрыяць будуць нармальнаму існаванню беларусаў у Рэчы Паспалітай.

рэд.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Chorwacja po akcji „Burza" jest już etnicznie czysta. W Bośni proces czyszczenia wkrótce dobiegnie końca i, jak na ironię, wielonarodowościowa pozostanie tylko Serbia. W Chorwacji ludzie się boją. Władze budują ideologię opartą na strachu. Z jednej strony jest zastraszenie, z drugiej — zachęta do uczestnictwa w grabieży, legitymizująca państwo bezprawia. Grabież serbskiego mienia w Krajinie działa się z zachętą władz. Oferta jest prosta: my tobie pozwalamy złupić serbski dom, ty nam okradać państwo. Chorwackie władze prywatyzują majątek całkiem jawnie do własnej kieszeni. To jest taki mafijny system, którego celem jest wytworzenie społeczeństwa zakładników: zakładników swoich własnych przestępczych czynów, które uniemożliwiają wystąpienie przeciw przestępczym czynom władzy. Obywatel-przestępca nigdy nie będzie szukać sprawiedliwości. W tej części Bośni kontrolowanej przez Chorwatów panuje wręcz kult kradzieży. Państwo jest po to, by kraść i być okradanym,* — сказаў Іван Звонімір Ціцак, старшыня Харвацкага Хельсінскага камітэта.

*Gazeta Wyborcza, nr 261*

Да гэтай пары ў „Выбарчай" можна было прачытаць, што Харватыя — гэта хрысціянская краіна, якая будуе дэмакратыю, рынычную гаспадарку і шануе правы чалавека.

* * *

*Dla mnie nie ma większego znaczenia, kto zostanie zwycięzcą w drugiej turze. Wybór między Wałęsą a Kwaśniewskim to tak jakby wybierać między dżumą a tyfusem,* — сказаў Януш Корвін-Мікэ, старшыня УПР. *Znowu trzeba wybierać między dwoma oszołomami,* — сказаў Тадэвуш Мазавецкі, былы прэм'ер-міністр.

*Gazeta Polska, nr 45*

* * *

*Armia rosyjska nie ma pieniędzy na wyżywienie rekrutów. Zjadane są żelazne racje przeznaczone na wypadek wojny, co oznacza, ze przyszła wojna będzie musiała być atomowa.*

*Najwyższy Czas, nr 44*

* * *

*Polska po Czechach to coś dzikiego. Z początku nie można zrozumieć, gdzie się jest i dokąd się jedzie. Białoruś to zadziwiający kraj. Cała jej zdolna do pracy ludność dzieli się na bandytów i tych co się boją, pisze prezydencka gazeta „Sowietskaja Biełorussija" w relacji rosyjskiego kierowcy przejeżdżającego tranzytem z Czech przez Polskę i Białoruś.*

*Gazeta Wyborcza, nr 262*

„Советская Белоруссия" мае знакамітых карэспандэнтаў. Не друкуе аўтараў, якія праяўлялі б хаця цень сімпатыі да беларусаў і беларускасці. Сапраўды прэзідэнцкая газета.

* * *

*Mężem stanu z zabitej dechami prowincji jest Ryszard Czarnecki, prezes ZChN, który wylansował nam primadonnę ćwierć sezonu Hannę Gronkiewicz-Waltz. To samo uczynił nasz drugi mąż stanu Ryszard Bugaj, z takim zacietrzewieniem zwalczający Kuronia, że kolosalnie wzmocnił Wałęsę, czego chciał uniknąć za wszelką cenę. Trzecim mężem stanu tej samej wielkości jest Jan Maria Rokita, który dał popis nielojalności wobec własnego stronnictwa i Kuronia, wzmocnił tym samym Kwaśniewskiego. Kuroń, który cieszy się największym zaufaniem społecznym zajął w następstwie głupoty, próżności i kramikarstwa klasy politycznej — trzecie miejsce. A przecież wszyscy jego konkurenci wiedzą, że byłby najlepszym prezydentem dla Polski. Może jeden Wałęsa sądzi, że byłby lepszy od Kuronia. Wałęsa jako gracz polityczny bije na głowę wszystkich swoich konkurentów. To oczywiście świadczy o poziomie naszej polityki.*

*Kolejny wniosek z wyborów prezydenckich to radosne przeświadczenie, że chłopi polscy dostrzegli wreszcie różnicę między Pawlakiem i Witosem. Bóg da, że może odejdzie ze sceny Chaplin polskiej polityki Janusz Korwin-Mikke. I jeśli mi kogo żal spośród tych śmiesznych ludzi — to Pietrzaka. Bo nic tak nie grzebie kariery satyryka, jak poważne traktowanie polityki,* — піша Анджэй Шчыпёрскі.

*Wprost, nr 46*

* * *

*Chciałem znokautować Kwaśniewskiego i byłem w stanie to zrobić. Co mi przeszkadzało? Te krótkie rundy. Nie zdążyłem go znokautować, bo musiałem odpowiadać na jakieś tam wierszyki. Nie mogłem go wciągnąć. Bokser wciąga i nokautuje,* — сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.

*Gazeta Wyborcza, nr 264*

* * *

*ZChN jest partią, która reprezentuje takie poglądy, jak Jaruzelski i Kiszczak, a przyczyną tej sytuacji jest to, że na czele tego ugrupowania stoi komunistyczny kapuś,* — сказаў Ян Парыс.

*Kurier Poranny, nr 261*

І хто б спадзяваўся, што ў структурах такой партыі схаваецца камуністычная ячэйка.

* * *

*Duńczycy wprost nie mogą się doczekać, kiedy będą mogli odwiedzić naszą wieś. Cieszy się ona taką popularnością, jak afrykańskie safari a przy tym jest znacznie tańsza i nie mniej egzotyczna. Są egzotyczne zwierzęta, bo dla Duńczyka koń jest równie egzotyczny jak lew, a tubylcy są gościnni i serdeczni. Duńczycy przyjeżdżają obejrzeć na własne oczy to, co znają tylko z książek. Przybywają, aby zobaczyć jak uprawiali rolę i hodowali zwierzęta ich przodkowie pięćdziesiąt lat temu. Dziś z szacunkiem należy odnieść się do filozofii Waldemara Pawlaka, głoszącego, że w polskim rolnictwie nie trzeba nic zmieniać, tylko dotować gospodarstwa z kieszeni podatników. Jest to niewątpliwie nasz wkład do gospodarski europejskiej, nasza trzecia droga do Europy. Trudno nie przyznać racji Pawlakowi. Polskie rolnictwo stało się atrakcją turystyczną dla gości z Zachodu. Nasz skansen bardzo im się podoba. Ale czy nas stać na dotowanie tak dużego skansenu jak Polska?*

*Gazeta Współczesna, nr 218*

* * *

*Сённяшняя сітуацыя ў Беларусі нагадвае стары анекдот. Замежны госць выказаў генеральнаму сакратару партыі здзіўленне, што ў Савецкім Саюзе не бывае страйкаў. Значыць, людзі багацца, тады тут няма дэмакратыі. Загадаў тады генсек прадэманстраваць госцю савецкую дэмакратыю і арганізаваць паказальны страйк. На абраным заводзе не выплацілі рабочым прэмію, потым затрымалі аванс, а потым не выплацілі зарплату, абедзенны перапынак скасавалі... А людзі нібыта не заўважалі, нібыта не з імі гэта робіцца. І толькі калі адміністрацыя прыгразіла масавымі карамі, што заўтра на завадскім пляцы людзей будуць вешаць — зарэагавау народ. Запытаўся: „Вяроўкі з сабою прыносіць, ці на месцы забяспечаць?"*

*Літаратура і мастацтва, н-р 42*




**Аляксандр Кваснеўскі** выбраны новым прэзідэнтам Польшчы. У другім туры прэзідэнцкіх выбараў, які адбыўся 19 лістапада г.г., набраў ён 51,72% галасоў. Ягоны контркандыдат **Лех Валэнса** атрымаў 48,28% галасоў. У Беластоцкім ваяводстве перамог Лех Валэнса, за якога прагаласавала 51,94% выбаршчкаў, але ва ўсходняй частцы ваяводства беларуска-праваслаўны электарат аддаў перавагу Аляксандру Кваснеўскаму, які, напрыклад, у Сямяцічах атрымаў 55,1% галасоў, у Бельску-Падляшскім — 79,8%, у Нурцы і Мілейчыцах — 81,8%, у Кляшчэлях — 90,4%, у Дубічах-Царкоўных — 97,4%, у Рыбалах — 98,41%.

**Яўген Чыквін** — рэдактар „Przeglądu Prawosławnego", былы пасол Сейма, так пракаментаваў для газеты „Kurier Poranny" вынікі выбараў: — Не сакрэт, што большасць праваслаўнага грамадства прагаласавала за Кваснеўскага. Перад выбарамі для нас лічыліся толькі Курань і Кваснеўскі. Курань, бо заўважаў патрэбы меншасцей і выдатна пасадзейнічаў ухваленню закона аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы. Затое Кваснеўскі для беднага насельніцтва ўсходняй сцяны быў надзеяй на паправу іх сітуацыі. Прытым лагер правых радыкальных груповак, з якім атаясамліваецца Лех Валэнса, падтрымоўваны каталіцкай іерархіяй і духавенствам, прапагандуе тэзіс аб пагрозе, якую быццам бы для польскага нацыянальнага быту нясе праваслаўе.

**Перамога Аляксандра Кваснеўскага** на прэзідэнцкіх выбарах у Польшчы дае падставу для новага імпульсу ў беларуска-польскіх адносінах, — лічыць былы консул Пасольства Беларусі ў Польшчы **Міхаіл Аляксейчык**. Каментуючы вынікі выбараў, ён нагадаў, што Аляксандр Кваснеўскі ў сваёй перадвыбарчай праграме і ў шэрагу выступленняў выказаў думку аб неабходнасці больш цеснага супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі, маючы на ўвазе, думаецца, і Беларусь. Таму ёсць усе падставы меркаваць, што ў бліжэйшы час палітычныя, эканамічныя і культурныя сувязі паміж дзвюма краінамі будуць паспяхова развівацца.

**Першаіерарх Сербскай Праваслаўнай царквы патрыярх Павел** падзякаваў ад імя жыхароў горада Баня-Лука за гуманітарную дапамогу, сабраную на Беласточчыне і перавезеную ў Бялград Праваслаўным камітэтам дапамогі ахвярам вайны ў былой Югаславіі. Патрыярх быў здзіўлены мнагалікасцю дароў ад малой праваслаўнай грамадскасці ў Польшчы. У горадзе Баня-Лука склалася надта цяжкія ўмовы пражывання. Жыхарам патрэбна даслоўна ўсё. Многія жывуць у палатках.

**У Варшаве** ў днях 20—21 лістапада адбылося трэцяе пасяджэнне беларуска-польскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Беларускую дэлегацыю на ім узначальваў міністр знешнеэканамічных сувязяў **Міхаіл Марыніч**, а польскую — міністр знешнеэканамічнага супрацоўніцтва **Яцэк Бухач**. Падчас двухдзённага пасяджэння была дадзена ацэнка эканамічным і гандлёвым адносінам паміж Беларуссю і Польшчай за апошнія два гады. Разглядалася таксама супрацоўніцтва ў галіне транспарту, асабліва магчымасці ўдасканалення дзейнасці пагранічных пераходаў, супрацоўніцтва мытных і пагранічных службаў. Акрамя таго бакі абмяркавалі перспектывы пашырэння супрацоўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасці і абмяняліся прагнозамі сумеснай знешнеэканамічнай дзейнасці. З увагі на тое, што пасяджэнне праходзіла напярэдадні афіцыйнага візіту ў Польшчу беларускага прэм'ер-міністра **Міхаіла Чыгіра**, значная ўвага была нададзена эканамічным пытанням.






*2 Ніва 3.12.1995*

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Пераемнасць мяжы

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, згодна з якім вырашана прыняць прапанову Кабінета Міністраў аб правапераемнасці Рэспублікі Беларусь адносна дагавора паміж СССР і Польшчай аб савецка-польскай дзяржаўнай мяжы, падпісанага ў Маскве 16 жніўня 1945 г. і дагавора паміж урадамі СССР і ПНР аб рэжыме польска-савецкай дзяржаўнай мяжы, супрацоўніцтве, узаемнай дапамозе па пагранічных пытаннях, падпісанага ў Маскве 15 лютага 1961 г.

## Візіт сусветных банкіраў

У Менск прыбыла дэлегацыя экспертаў Сусветнага банка. Мэта іх візіту — апрацоўка стратэгіі аказання Беларусі дапамогі ў выглядзе крэдытаў на бліжэйшы час. Паводле слоў дырэктара дэпартамента СБ Базіля Кавальскага, такая дапамога, якую плануе аказаць яго ўстанова, мае вялікае значэнне для Беларусі. Цяпер яна гатова даць пазыку для развіцця прыватных прадпрыемстваў. Гэта дасць магчымасць змякчыць у Беларусі праблему занятасці насельніцтва і будзе садзейнічаць развіццю экспарту.

## Дні польскай культуры

Уся палітра фарбаў мастацтва суседняй Польшчы дэманстравалася ў беларускай сталіцы з 13 па 20 лістапада. Польскі інстытут культуры ў Менску, дырэктарам якога з'яўляецца аташэ па пытаннях культуры Пасольства Польшчы ў Беларусі Марэк Галкоўскі, падараваў беларусам святочны настрой падчас Дзён польскай культуры ў Беларусі. Мянчане і госці сталіцы мелі магчымасць паглядзець лепшыя фільмы польскіх майстроў апошніх гадоў, пастаноўку польскіх лялечнікаў, паслухаць цудоўныя творы кампазітараў гэтай краіны. Сапраўдным падарункам для многіх мянчан стала сустрэча з чароўнай Барбарай Брыльскай і Збігневам Замахоўскім, чыс творчыя вечары адбыліся на сталічных падмостках.

## Супрацоўніцтва з Беласточчынай

Дэлегацыя Рамеснай палаты з Беластока, на чале з прадпрымальнікам Уладзіславам Клімам, правяла ў Смаргоні сустрэчу з прадстаўнікамі дзелавых колаў Гродзенскай вобласці і кіраўніцтвам Беларускага саюза прадпрымальнікаў. У складзе польскай дэлегацыі былі прадстаўнікі рамесных прадпрыемстваў, якія займаюцца перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі. Падчас сустрэчы быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу, адраджэння рамёстваў у Беларусі, навучання і перанавучання кадраў, выставачных кірмашоў і інфармацыйнага абмену, а таксама абмеркаваны план удзелу малых вытворчых беларускіх прадпрыемстваў у свяце рамества, якое пройдзе ў Беластоку ў лютым будучага года.

## Сціплы юбілей

Круглым сталом і традыцыйнай прэс-канферэнцыяй для журналістаў закончылася ў Менску сустрэча прадстаўнікоў беларускіх суполак замежжа, якая была прысвечана 5-годдзю Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Падчас сустрэчы былі абмеркаваны некаторыя праблемы беларускай дыяспары, былі прыняты зварот да прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і ўрада РБ і падпісана рэзалюцыя аб падтрымцы дзейнасці ЗБС „Бацькаўшчына". На жаль, гэтае мерапрыемства засталося па-за ўвагай афіцыйных урадавых і дзяржаўных структур.

## Кебічавы вэксалі

У Менску прайшла прэс-канферэнцыя дэпутата Вярхоўнага Савета, экспрэм'ера Вячаслава Кебіча. Падставай для сустрэчы з журналістамі стала публікацыя ў „Народнай газеце". Кебіч абвінавачваецца ў тым, што падчас свайго знаходжання на пасадзе кіраўніка Савета Міністраў ён паставіў свой подпіс на афіцыйнай паперы, якая давала магчымасць яе ўладальніку весці перамовы аб буйных фінансавых аперацыях. Так здарылася, што ў Вялікабрытаніі была затрымана група махляроў, якая мела пры сабе такія ж ці падобныя вэксалі з гербавай пячаткай, грыфам Савета Міністраў і з подпісам Кебіча. Кебіча выклікаюць у Англію ў якасці сведкі, ён адмаўляецца ехаць, а ў пракуратуры знаходзяцца справы ў пяць тамоў. Тым не менш экс-прэм'ер віны сваёй не бачыць, а публікацыю ў „Народнай газеце" назваў паклёпам, які мае палітычны характар. Справу аб 1 млрд. 100 млн. долараў вядзе старшы следчы па асабліва важных справах Пракуратуры РБ Аляксандр Рассолька. Ён збіраецца ставіць пытанне аб пазбаўленні Вячаслава Кебіча дэпутацкага імунітэту.

## Рэгістрацыя замежнікаў

Усе госці Брэста, якія не з'яўляюцца грамадзянамі РБ, павінны на працягу сутак з моманту прыбыцця ў горад прайсці рэгістрацыю ў міліцыі. Адна з прычын прыняцця гарадскімі ўладамі рашэння аб устанаўленні часовага парадку знаходжання замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў горадзе — рост злачынстваў і іншых правапарушэнняў. Асобы, якія парушаюць гэтую пастанову, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

## Асенні верш

*Верш „Позняя восень" напісала Надзея Дудзік з Гарадка і прачытала яго на юбілеі 30-годдзя паэтычнага дэбюту Мэлініі Бужыньскай падчас „Паэтычных замаразкаў", якія адбыліся 28 кастрычніка г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Ясвілах. Аўтарка перадала гэты верш рэдактар Галене Казіцкай і дала згоду на яго апублікаванне ў „Ніве". Спадарыня Г. Казіцкая ў сваю чаргу, праз маё пасрэдніцтва, прапануе надрукаваць верш Надзеі Дудзік у вашым тыднёвіку. Падтрымоўваю гэтую задуму!*

*Міхал Занчэўскі, Варшава*

### ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

Асыпаюцца лісточкі з бярозы
і ўжо не пяе салавей,
і зязюля перастала каваці.
Нат і шпачок адляцеў дзесь далей.
Што ж ты зробіш. Ужо позняя восень
і ўжо сонейка не так грэе,
бо не йдзе гэта да Пятра і Паўла,
але да святога Андрэя.

**Надзея Дудзік**

## Кіно ў Нараўцы

3 лістапада бягучага года ў Гмінным асяродку культуры (ГОК) у Нараўцы пачало сваю дзейнасць кіно. Кінасеансы адбыліся 3 і 4 лістапада а гадзіне 17.00. Дэманстравалі амерыканскі фільм „Зорныя вароты". Глядзець яго прыйшло многа людзей.

Фільмы можна будзе глядзець у кожную пятніцу і суботу вечарам. У праграме кіно да канца лістапада і ў пачатку снежня прадугледжаны выключна амерыканскія кінафільмы, для дарослых, моладзі і дзяцей.

Варта дадаць, што прыгожы новы будынак ГОКу аддалі ў карыстанне ў кастрычніку 1993 года. У ім прасторны глядзельны зал. Дык запрашаем у нараўчанскае кіно!

**(яц)**

## У бельскім ПОМе цёпла

У 47 н-ры „Нівы" пісаў я пра клопаты жыхараў чатырох ПОМаўскіх блёкаў у Бельску-Падляшскім у сувязі з тым, што няма на іх уласніка (артыкул „І без пана бяда"). На сёння справа, здаецца, памалу выясняецца.

27 кастрычніка ў віцэ-ваяводы Гжэгажа Рыкоўскага прайшла сустрэча прадстаўнікоў вясковай і гарадской бельскіх гмінаў, у час якой было падпісана між імі пагадненне. Чытаем у ім, што вясковая гміна забярэ з Галоўнага адміністрацыйнага суда скаргу, а адміністравáць аб'ектам будзе горад. Гарадскія ўлады выклалі спіс былой ПОМаўскай маёмасці, які можна паглядзець да 13 снежня. Пасля гэтага ваявода павінен правесці камуналізацыю аб'екта на карысць горада. Гмінныя ўлады абяцаюць, што зміраюца з рашэннем і не будуць ад яго адклікацца. Не будуць таксама выступаць з узаемнымі прэтэнзіямі.

І найважнейшая справа, ад пачатку лістапада запрацавала ПОМаўская кацельня і ў халодныя да тае пары кватэры паплыло цяпло. Ацяпленне фінансуе горад. Радасці жыхароў не паменшыла нават дробная сумная акалічнасць, што няма і праўдападобна не будзе цэлую зіму цёплай вады.

**Мікола Ваўранюк**

## Газета Белавежскай пушчы

Па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва „Неруш-прэс" і пры падтрымцы Дзяржаўнага нацыянальнага парку „Белавежская пушча" выйшаў першы нумар некамерцыйнай экалагічнай асветна-публіцыстычнай газеты „Белавежская пушча". Яе заснавальнікам і рэдактарам з'яўляецца Валерый Дранчук. Газета рэдагуецца і друкуецца (на беларускай мове!) у Мінску.

У першым нумары знаходзім між іншым нарыс В. Семакова аб мінулым Белавежскай пушчы. А. Стралкоў і В. Прошча знаёмяць чытача з пушчанскімі ельнікамі. Р. Гараднянскі ў сваю чаргу піша аб адкрыцці ў белавежскіх нетрах мясцін, у якіх расце страўсапёр звычайны або чорная папараць, надта рэдкая ў нас расліна. Шмат месца адведзена асобе праф. Яна Ежы Карпінскага (1896—1965), шматгадовага дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку. Гэты біяграфічны тэкст праілюстраваны шматлікімі здымкамі, выкананымі самім прафесарам. Увагу чытача могуць таксама прыцягнуць перадрукі фрагментаў (пра зубра) кніжкі Е. П. Вішнякова ад 1894 г. і артыкулаў аб пушчах, ловах, бортных дрэвах, азёрах і лугах са Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Варты ўва-гі і фрагмет кніжкі „Геаграфія Беларусі" Аркадзя Смоліча (1891—1938) пра любоў да Бацькаўшчыны і прыроду Белавежскай пушчы. Асаблівую ж цікаўнасць чытача выкліча напэўна першы з планаванай серыі артыкулаў У. Галубкова пра біяэнергетычныя ўласцівасці лесу і паасобных відаў дрэў.

Першы нумар газеты выйшаў тыражом 5 000 экземпляраў. Яна друкуецца на шаснаццаці палосах вялікага памеру. Ілюстрацыі ў газеце чорнабелыя. Пакуль што „Белавежскую пушчу" можна купіць у шапіку ТБМ у Мінску і ў Нацыянальным парку „Белавежская пушча", што побач вёскі Камянюкі.

**Пётр Байко**

## Ці дачакаюся тэлефона?

Надумаў я ўстанавіць тэлефон у кватэры. На чаромхаўскай пошце мне сказалі, што няма зараз такой магчымасці.

— Двум жыхарам Чаромхі занёс я адмоўнае паведамленне, — кажа знаёмы пісьманосец. — Паспрабуй у Гайнаўцы, — параіў.

У Гайнаўскім аддзяленні Беластоцкага прадпрыемства тэлекамунікацыі сімпатычны чыноўнік паясняе:

— У Чаромсе пакуль няма магчымасці паставіць тэлефон у хату, тым больш у Кузаве. Гэта адна з вёсак у Чаромхаўскай гміне, у якой найбольш хатніх тэлефонаў. Каля дваццаці.

— Значыцца, у мяне няма шанцу? — пытаюся.

— У гэтым годзе напэўна! Не ведаю як будзе ў наступным, — працягвае мой субяседнік. — Кабеля не хапае. Дадатковы кабель падвешваць трэба.

І тут пачаў ён паясняць мне ўсе тэхнічныя складанасці.

На маё пытанне, калі ў Чаромсе будзем карыстацца аўтаматычнай тэлефоннай станцыяй, пачуўся такі вось адказ:

— Мо за два-тры гады. Зараз падключаюць АТС у Кляшчэлях. Робім гэта на год раней, чым планавалі. Не выпадае, каб бурмістр круціў ручкаю тэлефона. Гэта ж горад! А вам трэба пачакаць, — дабаўляе. — Калі знойдзецца чатыры-пяць ахвотных з вашага боку, падвесім кабель, падключым.

І што ж мне рабіць? Чакаць! Мо сапраўды пасля Новага года знойдуцца ў Кузаве аматары тэлесувязі, тады мне таксама паставяць тэлефон у кватэры.

Каб толькі як найхутчэй сталася гэта!

**Уладзімір Сідарук**

## У Гайнаўцы — выстаўкі ўвесь год

15 кастрычніка г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё II Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. На выстаўцы паказваліся працы **Баляслава Гвоздзіка, Яна Ігнацюка, Анджэя Міркоўскага, Міхала Назарука, Іранеуша Ажахоўскага, Сабіны Пялшынскай-Кацье, Малгажаты, Кшыштафа і Паўлі Пражмоўскіх, Беаты Рэйман, Яна Старуня, Тамары Тарасевіч і Сяргея Жэдзя.** Па розных прычынах не ўсе яны даехалі на адкрыццё экспазіцыі.

Агляд мастацтва адчыніў дырэктар ГДК Мікалай Бушко, які ў прывітальным слове сцвердзіў, што чуллівасць і багацце душы мастака вылучае яго з ліку іншых людзей. Галіна Вайсковіч — намеснік дырэктара ГДК — прыгадала ўсім, што агляд непрафесійнай творчасці праводзіцца ў Гайнаўцы ўжо другі раз. Большая колькасць удзельнікаў і вышэйшы мастацкі ўзровень твораў пацвярджаюць, што мерапрыемства трэба праводзіць надалей.

Анна Тарасюк — інструктар-мастак — зачытала пратакол камісіі, якая ацэньвала агляд. Усе ўдзельнікі выстаўкі былі вылучаны на ваяводскі агляд, які адбудзецца ў снежні ў Беластоку. Мастакі атрымалі ўзнагароды. З невялікім канцэртам выступіў таксама калектыў Гайнаўскага дома культуры.

На заканчэнне адзначу, што ў Гайнаўскім доме культуры ўсякага тыпу выстаўкі праводзяцца кожны месяц, пачынаючы з лютага гэтага года. Перапынак быў толькі ў ліпені і жніўні.

**Міхал Голуб**

## Чаму ліквідавалі кабіны?

На поштах у Нараўцы, Старым Ляўкове і Ласінцы ліквідавалі тэлефонныя кабіны. Зараз тут, так сказаць, знаходзяцца нейкія „перагаворачныя пункты". Заказваеш размову і, калі атрымліваеш спалучэнне, ты вымушаны гаварыць пры ўсіх іншых наведвальніках пошты. Тэлефон стаіць на століку недзе ў куточку або — як у Нараўцы — вісіць на сцяне.

Мне асабіста такое новаўвядзенне не адпавядае. Не жадаю, каб нехта мяне падслухоўваў, а потым распавядаў аб гэтым іншым. Любяць жа ў нас людзі пляткаваць, паджартоўваць ды насміхацца.

Тэлефонныя кабіны з-за нейкай дзіўнай ашчаднасці, непрадуманасці ці браку ўяўлення разабралі. Лепш — на маю думку — вярнуць іх, бо цяпер, без іх, парушаюцца правілы тайны тэлефонных размоў. Закон гарантуе ўсім грамадзянам тайну карэспандэнцыі, а размовы па тэлефоне гэта ж таксама адзін са шляхоў зносін. Цяпер часцей тэлефануем, чымсьці пішам лісты.

**(яц)**

## Бежанства — забыты exodus

80 гадоў таму назад, у той позні, восеньскі час большасць продкаў сённяшніх беларусаў пражывала, не па сваёй волі, у Маскве, на Волзе, сярод украінскіх і кубанскіх стэпаў або за Уралам. Іх вымушаная вандроўка на ўсход пачалася на пераломе ліпеня і жніўня 1915 году, часта пад гул нямецкіх і расійскіх гармат. Людзі, патрывожаныя прапагандысцкімі весткамі аб здзеках нямецкага войска, пагружалі на вазы каштоўнае і самае неабходнае ў жыцці дабро і, быццам цыганы, цягнуліся на ўсход — у невядомае. Шлях іхняй вандроўкі значыўся тысячамі крыжоў. З усёй Гродзенскай губерні выехала каля 500 тысяч бежанцаў, чацвёртая частка іх — з сённяшняй Беласточчыны.

У Расіі „бежанцы" траплялі наогул на сардэчнасць багатых тады расійскіх сялян. Шырокую дапамогу расцягнуў над імі Камітэт імя княжны Таццяны. Тым, што апынуліся ва ўсходняй Беларусі, дапамагала Беларускае таварыства помачы ахвярам вайны.

Пасля 1917 г. „бежанцы" спазналі жудасці бальшавіцкага ладу. Цягнула іх на бацькаўшчыну, пабыўка на чужыне часта прабуджала ў людзях пачуццё патрыятызму. Вярталіся назад у 1918—1922 г.г. Кожны пяты з „бежанцаў" на радзіму не вярнуўся.

Дакументы, здымкі, прадметы таго драматычнага часу будуць паказвацца на выстаўцы ў Музеі ў Бельску-Падляшскім. Адкрыццё яе запланавана на 9 снежня г.г. у 14.00 гадзін. Да адкрыцця будуць прымеркаваны даклады, з якімі выступяць гісторыкі з Беларусі і Беласточчыны. Арганізатары: Музей у Бельску-Падляшскім ды Беларускае гістарычнае таварыства запрашаюць усіх зацікаўленых.

Арганізатары звяртаюцца да тых, якія маюць у сваіх зборах памяткі з часу „бежанства": дакументы, здымкі і т.п., з просьбай пазычыць іх для выстаўкі. Цікавіць нас таксама магчымасць іх закупу або скапіравання. Зацікаўленых просім звяртацца на адрас:

Muzeum — Ratusz
ul. Mickiewicza 37
17-100 Bielsk Podlaski
tel. 22-44

## Зацікаўленне гаспадаркай

Яшчэ нядаўна многія жыхары Чаромхаўскай гміны кідалі гаспадарку, бо, як самі тлумачылі, ім не аплачвалася на ёй працаваць. Ворная зямля заставалася ляжаць аблогам.

Зараз нешта змянілася. Мне таксама захацелася на старыя гады гаспадаркай заняцца. Пайшоў у гміну, каб аформіць арэнду на паўгектара ворнай зямлі пад бульбу.

На кузаўскіх палях нічога мы не знайшлі. У суседніх вёсках таксама. Ёсць дзялянкі або вельмі малыя, або па некалькі гектараў. Сярэдніх, такіх ад паўгектара да аднаго, няма. Сенажаці ды лясы — калі ласка, але з ворнай зямлёй бяда. А нам, пенсіянерам, невялікія палеткі патрэбныя.

У рэшце рэшт вымушаны я быў меншым кусочкам задаволіцца. І хоць аблог мне дастаўся, паспрабую добраўпарадкаваць яго. Калі мне пашанцуе, то можа і аблог абдарыць мяне буйнай бульбай.

**(ус)**

# Выбарчая кампанія

Год 1995 у Польшчы і Беларусі мінае пад знакам выбараў. У першай са згаданых дзяржаў выбіралі прэзідэнта, у другой — парламент. Вынікі выбараў ужо вядомыя і ў кожным выпадку паказваюць на палітычныя сімпатыі народаў, якія акрэсліваюць характар пажаданых сабою ўлад. Грамадзяне Польшчы мелі магчымасць дакладна прыглядзецца ўсім кандыдытам на прэзідэнта Рэчы Паспалітай падчас выбарчай кампаніі, якая вялася ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Кандыдатаў было шмат і нават найбольш патрабавальныя выбаршчыкі маглі ў шырокім дыяпазоне прапаноў знайсці тып прэзідэнта сваіх мараў. У першым туры на "свайго" маглі аддаць голас аграрнікі, лібералы, камуністы, нацыяналісты, мазахісты і ўсе іншыя палітычныя, псіхічныя ды эратычныя плыні краіны. Журналісты выцягнулі найбольш сакрэтныя прыкметы душ кандыдатаў, палягчаючы гэтым самым выбаршчыкам у вырашэнні іх вялікай праблемы. Выступленні, напрыклад, спадароў Пятровіча ці Бубеля адрасаваныя былі толькі да нейкай элітарнай, неакрэсленай меншасці і мелі на фоне палітычных падзеяў краіны вельмі цікавы характар. Большасць выбаршчыкаў вырашыла, што ў другім туры за пост прэзідэнта Рэчы Паспалітай будуць змагацца палітыкі, пра якіх, як здавалася, ніхто нічога новага ўжо не скажа. Аказалася аднак, што другі тур выбарчай кампаніі быў не менш цікавы, чым першы. Былі там элементы жаху, драмы, і камедыі. Выбарчыя штабы кандыдатаў засяродзілі гэтым разам увагу выбаршчыкаў на тым, на якую суму сапернік абакраў дзяржаву, у якой захацеў стаць першай асобай, або што ілгунства і несумленнасць з'яўляюцца яго галоўнай прыкметай. Непасрэдныя канфрантацыйныя сустрэчы Валэнсы і Кваснеўскага ў прысутнасці мільёнаў тэлегледачоў былі безумоўна галоўнымі спектаклямі 1995 году. Сімпатыі публікі падчас своеасаблівага рэферэндуму 19 лістапада падзяліліся амаль дакладна напалову. Пару сот тысяч галасоў больш атрымаў Кваснеўскі, а вечар у дзень выбараў быў як бы прадаўжэннем выбарчай кампаніі, хаця гонкі ўжо скончыліся. Вынік выбараў сабраныя ў тэлестудыі журналісты і палітыкі правага накірунку акрэслівалі нават як пրыніжэнне Польшчы і палякаў.

Не менш цікавая выбарчая кампанія вялася ў Беларусі. Тут таксама выбары адбываліся ў двух турах. Першы адбыўся 14 мая г.г разам з лукашэнкаўскім рэферэндумам, другі 29 лістапада. Перад першым турам парламенцкіх выбараў у Беларусі не было ніякай выбарчай кампаніі. Кіруючаму краінай прэзідэнту і ягонай "вертыкалі" парламент здаваўся ў той час зусім непатрэбны. Таму праўдападобна безупынна паказвалі ў манапалізаваных сабой сродках масавай інфармацыі грамадзян, якія заяўлялі, што ніякага парламента выбіраць не будуць, а толькі становча адкажуць на ўсе пытанні вынесеныя прэзідэнтам на рэферэндум. Лукашэнка дачакаўся поўнай перамогі над беларускім народам. Даказаў, што беларусы, так як іх прэзідэнт, не хочуць мець ні сваёй дзяржавы, ні мовы, ні традыцыі, як бы адракаліся ад свайго існавання. Дэпутатаў таксама, згодна з пажаданнямі прэзідэнта, не выбралі ў такой колькасці, каб мог пачаць працу Вярхоўны Савет.

Паўгода амаль Лукашэнка са сваімі "вертыкалістамі" кіравалі дзяржавай, ігнаруючы стары, але законны, Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны Суд. Нічога ў тым часе не змянілася ні ў гаспадарцы, ні ў палітыцы. Былі страйкі і пратэсты, але не было ніякага выразнага ворага, якога можна было б абвінавачваць у рэзультатах свае бяздарнасці. Апазіцыя аказалася так прыгнечанай пройгрышам, што не надавалася нават на міфічны сімвал зла. Была спроба абвінавачання ва ўсіх беларускіх няшчасцях замежных шпёнаў і эмісараў, але не той ужо час, каб людзі паверылі ў слова, без дэманстрацыі ў сродках масавай інфармацыі варожых экспанатаў.

Перад другім турам лукашэнкаўская прапаганда змянілася на сто восемдзесят градусаў. Кожны дзень у інфармацыйнай праграме "Навіны" выступалі міліцыянеры, рабочыя, сяляне, дзяржаўныя ўраднікі, пераконваючы тэлегледачоў у тым, што для беларускай дзяржавы Вярхоўны Савет неабходны.

Лукашэнка будзе мець цяпер магчымасць паказаць пальцам патэнцыяльных віноўнікаў усялякіх сваіх няўдач. Зусім не важнае, што прыгнятаючая большасць дэпутатаў — гэта камуністы і аграрнікі (старшыні калгасаў). Раней ці пазней прэзідэнт у нечым абвінаваціць і гэтых дэпутатаў.

**Васіль Кургановіч**

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### Шчучын

У абрэзаных межах Беларусі (вялікую частку заходняй Беларусі немцы далучылі да Прусіі) з надыходам 1942 г. дазволена было арганізаваць краёвыя суды, міравыя ў раёнах і два акругова: спачатку адзін у Менску, а пазней другі ў Баранавічах. Гэтым судам былі даручаны толькі цывільныя справы, напрыклад, зямельныя, спадчынныя ці сямейныя.

Вясну правёў я як пратыкант пры міравым судзе ў Лідзе. З пачаткам лета мяне накіравалі ў Шчучын. У гэтым горадзе я не быў ні разу. Таксама нямнога было там у мяне знаёмых. Ведаў адгэтуль толькі настаўніка Клышэвіча. Уцёк ён у Шчучын з Ліды перад праследам тамашняй паліцыі. Некалькі разоў яго тут арыштоўвалі і перадавалі немцам як камуніста. З нямецкіх рук выходзіў ён жывым толькі таму, што ягоная швагерка добра ведала нямецкую мову і настойліва яго баранілa.

Яшчэ зімою з Ліды ў Шчучын перасяліўся малады хлопец, вялікі беларускі патрыёт Пётр Рандарэвіч. Працаваў ён там у раённай управе, арганізаваў камітэт Беларускай народнай самапомачы. Прыязджалі адтуль у Ліду настаўнік Сэгаціс і работнік Францішак Васюк. Трывожылі мяне іхныя расказы аб здзеках тамашняй паліцыі над мясцовым насельніцтвам. А мне якраз прыйшлося туды направуляцца.

***

Быў месяц ліпень. З Клышэвічам і іншымі дамовіўся я, што ў Шчучын прыеду ў суботу. У апошні аднак час, насуперак нашаму дагавору, кантакт з імі парваўся. Для мяне было гэта нечаканасцю і з выездам я ўстрымаўся.

У панядзелак прыйшлі трагічныя весткі. Забіты Рандарэвіч і настаўнікі Павел Шляхтун і Грудскі.

У распаложаных у нейкіх дзесяці кіламетрах ад Шчучына Раковічах згуртаваная пры тамашняй школе моладзь паставіла ў нядзелю п'есу „Купалінка" Янкі Купалы. З'ехалася туды частка навакольнай беларускай інтэлігенцыі. У той дзень у вёску ўварвалася нейкая банда. Узброеныя людзі вывалаклі Рандарэвіча, цягалі яго па шляхецкіх фальварках і ўрэшце замучылі ў лесе. У школе ў Раковічах настаўніцай працавала дачка каменданта раённай паліцыі Вольга Коцат.

Настаўнікаў Шляхтуна і Грудскага, якія вярталіся на працу, нехта замардаваў каля Васілішак. Пазней гаварылі, што зрабіла гэта паліцыя з Васілішак, якую аб выездзе настаўнікаў паведаміла паліцыя са Шчучына.

Адным словам, у Шчучынскім раёне на Беларусі польская паліцыя з сарганізаванай для дапамогі бандай зрабіла пагром беларускай інтэлігенцыі.

Калі некалькі дзён пазней прыехаў я ў Шчучын, то ахвяры пагрому былі ўжо пахаваны. Людзі былі ўсім гэтым моцна прыгнечаныя і ўстрывожаныя. Блізкія плакалі па забітых. У такіх маркотных абставінах пачынаў я працу на новым месцы.

***

Суд у Шчучыне трэба было яшчэ арганізаваць. Не было ні памяшкання, ні мэблі, ні канцылярскіх работнікаў. Звярнуўся я ў гэтай справе ў раённую ўправу. Прыняў мяне намеснік бурмістра інж. Калясінскі. Якраз у гэты час раённая ўправа бурмістра не мела. Раней быў ім нейкі Ліневіч, які разам з немцамі і паліцыяй грабіў яўрэяў. Немцы мелі да яго прэтэнзію, што не так як трэба дзяліўся з імі награбленым дабром і застрэлілі яго.

Прыйшлося мне па нейкай справе зайсці і на паліцыю. Якраз каменданта Коцата не было, але згоны сакратар пачаў да мяне кідацца як які злы сабака.

У хуткім часе ўсё ж такі ўдалося мне ўсё сарганізаваць. На першае пасяджэнне суда, быццам на нейкі спектакль, сабралася поўная зала. Была гэта першая мясцовая ўстанова з беларускай мовай

Усё гэта падбадзёрвала мясцовае насельніцтва. На нейкі час суцішыўся тэрор паліцыі. Неўзабаве беларуская мова была ўведзена ў школах і ў раённай управе. Пры толькі што створаным доме культуры пачала працаваць драматычная група, паўстала настаўніцкая семінарыя. Але не суджана ім было праспяхова развівацца.

Беларускае насельніцтва Лідчыны, як хіба ніздзе на іншых землях Беларусі, было пакінута на волю лёсу. Цягнулі з яго кроў і сокі гітлераўцы, нажывалася на ім паліцыя, а пазней яшчэ і Армія Краёва. Усе гэтыя варожыя мясцоваму насельніцтву сілы былі тут шчыльна з сабой павязаны.

*(працяг будзе)*

# ПА ГРАМАДСКІМ ЗАПАТРАБАВАННІ

**Размова з МІКАЛАЕМ ПРАКАПЮКОМ — старшынёю Аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Сямяцічах.**

*— Сёлета ў вашым раёне адбыліся два беларускія фэстыны. Ці гэта вынік вашых арганізацыйных намаганняў, ці праява аўтэнтычнай патрэбы мясцовага насельніцтва?*

— Да гэтай пары арганізавалі мы традыцыйна толькі адзін беларускі фэстын у саміх Сямяцічах. Сёлета прыйшлося арганізаваць яшчэ адно мерапрыемства такога тыпу ў вёсцы Слохі-Аннапольскія. Ініцыятыва выйшла ад саміх жыхароў вёскі. Солтыс і салэцкая рада мелі да нас жаль, што калектывы прыязджаюць толькі ў Сямяцічы, а да іх ніхто нават не загляне. Наш аддзел выйшаў насустрач такому патрабаванню і фэстын адбыўся.

*— Ці жыхары Слохаў абмежаваліся толькі да патрабавання наладзіць ім мерапрыемства?*

— Не. Солтыс і яго рада падрыхтавалі ўсё неабходнае для таго, каб фэстын адбыўся ў адпаведных умовах. Перш за ўсё жыхары самі адрамантавалі пляцоўку. Вёсцы і аддзелу дапамог на меры магчымасці войт Сямяціцкай гміны Эдуард Зарэмба, які таксама прыняў удзел у фэстыне. Народ вельмі цёпла сустрэў выканаўцаў і такі фэстын будзе ў Слохах ладзіцца кожны год. Карыстаючыся нагодай, хачу ад імя БГКТ выказаць жыхарам Слохаў сардэчную падзяку і за ініцыятыву, і за дапамогу ў правядзенні фэстыну, а мастацкім калектывам — за цудоўныя песні.



*На фэстыне ў Слохах. Злева: Міраслава і Мікалай Пракапюкі, а. Андрэй Якімюк і пасол Сяргей Плева.*

*— Фэстын у саміх Сямяцічах таксама прайшоў паспяхова, аб чым пісаў наш карэспандэнт Язэп Карпюк. У чым заключалася яго незвычайнасць?*

— Сёлетні фэстын, які праходзіў у амфітэатры над вадасховішчам, вылучаўся перш за ўсё шматлюднай публікай. Да гэтай пары на беларускіх мерапрыемствах не збіралася столькі многа народу. На гэты раз паслухаць беларускія песні прыйшлі не толькі беларусы, праваслаўныя, але і каталіцкія жыхары горада. Падчас канцэрта не было ніякіх эксцэсаў, ні з'едлівых выказванняў. Таксама плакаты аб фэстыне засталіся вісець на дошках аб'яў цэлымі, хаця ў мінулым знішчаліся паўсюдна. Такая атмасфера — вынік актыўнасці беларускага насельніцтва горада, якое пры кожнай нагодзе акцэнтуе сваю тут прысутнасць. Вялікая ў гэтым заслуга і настаяцеля мясцовага прыхода айца Андрэя Якімюка, які аказвае нам духоўную падтрымку.

*— А як да вашых ініцыятыў ставяцца мясцовыя ўлады, радныя, парламентары?*

— Агульна можна сказаць, што прыхільна. Асабліва многа дапамагае нам у правядзенні культурных мерапрыемстваў дырэктар Сямяціцкага асяродка культуры спадар Зэнон Селевановскі. На нашы мерапрыемствы запрашаем усіх афіцыялаў, хаця не ўсе ўдастойваюць нас сваёй прысутнасцю. Напрыклад, пасля апошняга фэстыну некаторыя нашыя дзеячы сталі папракаць мяне ў тым, што на фэстыне прысутнічалі паслы ад Саюза левых дэмакратаў, а гэта, на іх думку, прыдае беларускім імпрэзам канкрэтны палітычны характар. Адказваў я ім, што трэба цешыцца, што прысутнічалі паслы ад СЛД і шкадаваць, што паслы і дзеячы іншых палітычных арыентацый не схацелі пакарыстацца нашым запрашэннем.

*— Ці культурная актыўнасць вашага аддзела абмяжоўваецца толькі да правядзення фэстыну?*

— Апрача згаданых фэстынаў арганізуем яшчэ раённы агляд спевакоў і калектываў на конкурс „Беларуская песня". Арганізацыйную работу пачынаем ужо цяпер, а ў пачатку наступнага года ў Сямяціцкім асяродку культуры адбудзецца адборачны канцэрт, пераможцы якога прымуць удзел у фінале гэтага конкурсу ў Беластоку.

*— Беларускія мерапрыемствы адбываюцца цяпер амаль выключна ў Сямяцічах. А што чуваць у актыўных калісьці на культурнай ніве жыхароў Вілінава, Літвінавіч, Рагач і іншых мясцовасцей?*

— Гэта вельмі сумная і балючая справа. Актыўныя некалі мясцовасці апынуліся ў складанай сітуацыі. Вёскі старэюць, не спыняецца іх абязлюдзенне. Школы і святліцы, у мінулым ініцыятары культурнай актыўнасці сялян, цяпер стаяць пад замком. Усё гэта паўплывала на занапад самадзейнасці. Мы, як аддзел, таксама не маем магчымасці ініцыяваць і арганізаваць культурнае жыццё ў нашых вёсках, паколькі не распараджаемся ніводным штатам і нават не маем свайго памяшкання. Усё, што ўдаецца нам сарганізаваць, робім на грамадскіх пачатках. У такіх абставінах мы можам толькі садзейнічаць ініцыятывам саміх жыхароў той ці іншай вёскі.

**Гутарыў Віталь Луба**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 431*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*

*Творчасць Зоі Сачко адметная не толькі непаўторнай арыгінальнасцю яе таленту, што, наогул, абумоўлівае літаратурную з'яву як такую. Яна піша на палескай гаворцы, якую ў нас часамі называюць бельска-гайнаўскай. Нядаўна выйшла з друку — у серыі Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — чарговая яе паэтычная кніжыца „Шчэ одна вэсна" (пад рэдакцыяй Яна Чыквіна).*

*З гэтай нагоды свае выказванні даслалі — Алесь Разанаў, выдатны беларускі паэт і выдавец, а таксама Тэрэса Занеўская, вядомы польскі літаратурны крытык.*

*Выпала рэдкая нагода параўнаць погляды двух бакоў на сутнасць паэтычных здабыткаў Зоі Сачко.*

*Алесь Разанаў*

## Водгук

Зоя Сачко піша вершы на мове, на якой піша вершы толькі яна адна, — на мове мясцовасці, дзе яна нарадзілася, узгадавалася і цяпер жыве. Калі б яна пісала вершы на літаратурна сфармаванай мове, што мае сваю гісторыю і традыцыі, яна была б адна з многіх, і напрацаваныя папярэднікамі і сучаснікамі творы нябачна прысутнічалі б у яе творах, удакладняючы іхняе месца і значэнне, але ў нашым выпадку ўсё трохі інакш, і самім фактам творчасці на мове, раней не вядомай літаратуры, паэтэса набывае статус, у нечым тоесны статусу жывога класіка.

І хоць паводле мовазнаўчых вызначэнняў мова, на якой піша вершы Зоя Сачко, не больш чым гаворка, адна з многіх, для Зоі Сачко яна, як для іншых творцаў спелая літаратурная мова, — цэлы свет, цэлы космас. Яна арганічна зрошчана з прадметамі, якія захоўваюць цяпло чалавечых рук, з лёсам блізкіх людзей, з краявідамі, — і толькі на ёй яны могуць выказвацца і выяўляцца.

Кожны паэт знаходзіцца ў вельмі асабістых, нават інтымных, адносінах з мовай, на якой піша. Ён не творыць новай мовы, ён творыць новую адносіну з мовай, і гэтая агучаная і ўвідавочненая адносіна ёсць паэзія.

Параўнайце рускія і беларускія вершы Максіма Багдановіча — і вы ўбачыце, што рускай мовай ён валодаў не горш, а, можа, нават і лепш, чым беларускай, але з беларускай ён знаходзіўся зусім у іншых адносінах, чым з рускай: яна яму адгукалася, яна для яго была с в а ё й.

На голас Зоі Сачко адгукаецца бельская гаворка. І хай яна не мае сваёй літаратурнай традыцыі, хай абмежавана ў сваім бытаванні, Зою Сачко гэта як бы і не турбуе.

*... хай лепі піесьня звучыт*
*а музыканта нэ знают*, — піша яна.

Так, з'ява паэзіі суадпавядае з'яве прыроды, яна не выдумка паэтаў, а арганічная патрэба самога быцця. Па тым, што адбываецца з паэзіяй, можна меркаваць, што адбываецца з самім быццём, і Бельск для яго не менш *метрапольны*, чым Варшава, чым Мінск альбо Кіеў.

Наколькі мне вядома, існуюць розныя меркаванні, з кантынуумам якой літаратуры — беларускай, украінскай ці польскай — суадносіцца паэзія Зоі Сачко. Я думаю, гэтае пытанне не варта ні ўскладняць, ні палітызаваць. Лепей пакінем усё на сваім месцы. Кветка паэзіі Зоі Сачко вырастае толькі са сваёй глебы. Што тычыцца самой гэтай глебы, то гэтаксама, як арганізуецца ландшафт, любая адметная з'ява ўзнікае і замацоўваецца ў прыродзе таму, што рабочым улоннем для яе з'яўляецца другая — родная, але не ідэнтычная з'ява. Балаціна ўзнікае не на самой балаціне, і поле не з самога поля... Такім *рабочым улоннем* для паэзіі Зоі Сачко выступае беларускі літаратурна-культурны кантэкст. Украінскі, калі б ён атачаў сваёй аўрай Бельшчыну, не дазволіў бы гэтай паэзіі набраць неабходную колькасць непадабенства і *выправіў* бы яе як недакладнасць. Тое самае, але па-свойму, і польскі...

Аднак гэтага не адбылося, і таму, што гэтага не адбылося, не ў апошнюю чаргу трэба дзякаваць існуючаму на Беласточчыне *мяккаму* беларускаму ландшафту.

Сваёй паэзіяй Зоя Сачко дае вымавіцца існаму.

Кветкі растуць, не дбаючы пра тое, ці хто зверне ўвагу на іхнюю прыгажосць, ці хто ўдыхне іхні водар. І птушка спявае, знаходзячы водгук у сваім спеве.

*Тэрэса Занеўская*

## Асабістае і агульначалавечае

У асяроддзі паэтаў *Белавежы* Зоя Сачко лічыцца адзіным аўтарам, што піша на гаворцы, вынесенай з роднага дома (на якой размаўляюць яе землякі ў Вольцы, што каля Орлі). Адмаўляючыся ў сваёй творчасці ад беларускай літаратурнай мовы, зрабіла яна гэтым самым свядомы выбар уласнага месца ў літаратуры: *Не вялікай хачу быць, а блізкай сваім людзям*, — кажа паэтка. Лічыць, што мова гаворкі дае больш шанцаў дзеля паразумення.

Зоя Сачко — член Саюза польскіх пісьменнікаў. Яе паэтычныя кніжыцы добра ўспрыняла літаратурная крытыка. У серыі Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб'яднання *Белавежа* вось выйшла з друку трэцяя па чарзе, *Шчэ одна вэсна*. Выдатна падрыхтаваная яна Янам Чыквіным як рэдактарам, бачыцца пры гэтым прыгожа і дбайна афармленай. Аўтарка прысвяціла яе памяці нябожчыка бацькі. Характар таго прысвячэння адлюстроўвае тон і духоўную сутнасць апублікаваных твораў. Пераважная большасць вершаў напісана ёю апошнім часам — глыбока асабістыя, настальгічныя, напружана драматычныя, з важкімі запытаннямі, на якія сучасны чалавек не знаходзіць адказу.

Бацькі ўжо няма. Паміж светам і святлом запыніўся час. Свет не прапаў, ён у правілах руху падзей, а бацька — як адзін са стваральнікаў і вартавых сялянскіх будняў вяртаецца і ажывае струною свята ва ўспамінах жывых. Гераіня вершаў Зоі Сачко, вяртаючыся ўспамінамі да нябожчыка, у сапраўднасці вядзе гутарку самое з сабою, намагаючыся тым самым пранікнуцца тайніцаю існавання. Упарадкаваныя адзін за адным вершы складаюць як бы філасофскі трактат пра вечнае; сутыкаюцца дзве плоскасці — жыццё і смерць, што мае свой адбітак у паэтычнай сімволіцы бэзу і вінаграду. Бэзавае квітненне асацыюецца з вясною, першай вясною без жывога бацькі, а вінаград уяўляе сабою сімвал адраджэння жыцця. Узмоцнена тое Уваскрэсеннем Хрыстовым, вялікім святам! Хрыстос уваскрос — а значыць: яшчэ сустрэнемся. Такіх супрацьстаўленняў жыцця і смерці награядаем у спомненым зборніку шмат: яблыневая квецень, белыя вішні, уросляя ў зямлю лаўка, пустое акно, парожні дом, які чакае, каб прыйшлі людзі жыць у ім; незасеенае поле, якое некалі даглядаў бацька, кідаў у раллю зерне. Час запыніўся як быццам. Чамусьці не прыходзіць восень; лета ўсё кладзецца доўгім ценем. А дні, бы агонь гарачыя.

Узнікае драматычнае запытанне: няўжо будучыня — гэта толькі памяць пра мінулае? І ці жыве той толькі, каму пашчасцілася з вясною? А вясна без жывога бацькі, які цалкам жыў у рытмах прыроды, значыць канец чагосьці ці ўсяго толькі пачатак? І яшчэ: калі ўсё ўжо даўно сказана, дык як жыць? Як далей? Толькі цені ўва мне, толькі цені... У кожным з нас яны, бо ўсе мы намагаемся ахапіць розумам тайніцу існавання, уцяміць законы жыцця, патлумачыць самому сабе тое, што немагчыма растлумачыць.

Скромная на выгляд кніжыца Зоі Сачко становіцца нечым агульначалавечым, універсальным. Здавалася б, яе вельмі асабістыя вершы ў гэтым выданні пераўтвараюць яго ў выданне для шмат-каго з нас.

У кніжцы *Шчэ одна вэсна* натыкаемся на творы даволі сюррэалістычныя, іншы раз напоўненыя недагаворанасцю або і маўчаннем, навязваючыя да працягу архетыпных вобразаў, найпершасных у чалавечай культуры. Іх разнастайнасць не пакідае, аднак, уражання разнабою або адсутнасці паслядоўнасці. Несумненна паспрыялі яны фармаванню гэтай, важнай у здабытках паэтэсы, кніжыцы — мудрай і горкай адначасна.

*Віктар Швед*

## Рэчаіснасць

Няма гаспадара ўжо ў Моры,
Пенсіянерам стаў брат мой.
І брукаваны панадворак
Пазарастаў ужо травой.

І непатрэбны стаў нікому
Плужок жалезны з бараной,
І трактар стаўся горбай лому,
Аджыў ужо век доўгі свой.

Бацькоўская старая хата
Яшчэ стаіць, як маналіт.
Век аджывае разам з братам,
Разам адыдуць у нябыт.

Калі бываю ў Моры зрэдку,
Тут у такі ўваходжу стан:
Як уміранне вёскі сведка,
Як той апошні з магікан.

*Алесь Чобат*

## Жоўтая ружа

Жоўтая ружа дзіўны колер прыдбала.
Як восень светлая. Калі чалавеку мала
горада, поспеху, грошай — і цягне яго светлы лес,
дзе бярозы пад ветрам распранаюцца, як дзяўчаты
перад люстэркам, дзе маўчаць маляваныя хаты,
дзе поле заснула і куды не дайшоў прагрэс...
На вясковыя могілкі даўно цішыня лягла.
Апошняя жоўтая ружа калыхаецца, як імгла.
Жоўтая ружа — гэта восень лёсу майго.
Жоўтая ружа — гэта цень ад цела твайго.

*Міхась Андрасюк*

* * *

Прадзе восень шаўковыя дні
па-над рэчкамі, з белай кудзелі,
грыбасейныя ходзяць дажджы,
калідорамі жоўтых мяцеліц.

Жураўы адчыняюць ключом
дзверы ў белую спальню анёлаў,
хтосьці кінуў чырвонцам-рублём
на лугі, як на суконне прастолаў.

Прадзе восень шаўковыя дні
тонкай ніткай бабінага лета,
з-за акон медзяныя агні
заглядаюць у вершы паэтам.

### За борам

Ёсць далёка, за борам, крыніца,
там вечнасць з вятроў выпіваюць
алені,
там змятае з нябёсаў каляднае сена
і ў дом беззаганны нясе маладзіца.

І стол усцілае бел-белым туманам,
у бакоўцы віно жмурыць вочы
спрасоння,
мо адвячоркам прыедзе каханак
конна.

А ночку, здатныя часу далоні,
з асколкаў свінцовых ткуць невад
мястэчка;
бяжыць туды свежа адкрытая рэчка
і зморaны вечнай дарогаю коннік.

*Міра Лукша*

## Час не забіты

на пажоўклых канвертах
пячаткамі пабітыя маркі
дзе ні даты ні горада
усюды заплылі чорныя слёзы

брата Якіма забралі
не вярнуўся
апошні ліст быў з Магілёва
„больш не напішу"
і тры крыжыкі

няма часу
няма сну
а дзед хацеў мне расказаць
казку

як павярнулі і вярнулі час

няма сну
ў доміках лялек
няма часу
на вуліцах
памытых навальніцай
на пясчанай палявой дарозе

толькі смак дзічак-грушак
на спаленых вуснах

усё няма сну
няма часу
няма дзедавага брата

няхай наш час
хоць свае заліжа раны

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Тэатр у Махнатым

— Як праводзіце вольны час пасля заканчэння пачатковай школы?

— На „забавы” ходзім, — пачуецца ад пераможнай калькасці маладзёнаў, нядаўніх чытачоў „Зоркі”.

На вёсцы так прынята, што „забава” — самая цікавая і адзіная аддышка ад штодзённасці. На шчасце, штораз часцей моладзь шукае іншага, больш цікавага, ачышчальнага, творчага правядзення свабоднага часу.

З цікавай думкай сустрэлася я ў Махнатым — прыгожай, багатай і людной вёсцы.



*Васьмікласнікі з Махнатага разам з дырэктарам школы Ірэнай Грыгарук і настаўніцамі Зінай Сельвясюк і Ганнай Гаўрылюк.*

Тэатр у Махнатым?

Чаму ж не! Здаўна існуе тут школьны тэатральны гурток. Ганна Гаўрылюк і Зіна Сельвясюк, як многія настаўнікі беларускай мовы, ведаюць, што праз артыстычную працу можна прывіць любоў да роднага, павысіць нацыянальную свядомасць. Вядома, апрача працы былі таксама прыемнасці, узнагароды ў тэатральных аглядах, воплескі бацькоў у час „ёлкі”, зацікаўленне журналістаў, словам, добрая слава. Шкада толькі, што пасля пачатковай школы і канчаецца гульня ў тэатр. Так дзеецца не толькі ў Махнатым, але і ўва ўсіх вёсках. Быццам гульня ў тэатр была прыдумана толькі для дзяцей.

Пра магчымасць працягваць заняткі ў сваім тэатры разважалі вучні VIII-га класа. У „тэатральным” класе толькі дзве дзяўчыны. Хлопцы тут у большасці, усе яны цікавяцца і любяць тэатр. Пасля заканчэння пачатковай школы пойдуць у гайнаўскія тэхнікумы, ліцэі і прафесійныя школы. Але на вечар і вольныя дні будуць вяртацца ў сваю вёску. У Махнатым і Старым Беразове (бо ў школе вучні таксама са Старога Беразова) ёсць вясковыя святліцы, дзе можна было б праводзіць рэпетыцыі. Цікава і многа гаварылі яны пра „нетыповасць” свайго будучага тэатра, дзе п’есы рыхтаваліся б таксама на дыялекце. Дарэчы, усе валодаюць тут падляшскім дыялектам, бо па-свойму гавораць з сябрамі, бацькамі, аднавяскоўцамі. Выкарыстанне для творчай працы дыялекту спрыяла б арыгінальнаму і аўтэнтычнаму вобліку тэатра. І пэўна прасцей было б.

— А так часам нас папракаюць на аглядах, што цвёрда вымаўляем некаторыя словы, — успамінае пані Ганна Гаўрылюк.

Ці вучні з Махнатага будуць здзяйсняць свае мары? Ці паспрыяюць развіццю „сваёй малой айчыны”, узмоцняць добрую славу сваёй мясціны?

Час пакажа. А добры час — калі светлыя думкі, — гавораць у народзе. Лавіць яго трэба, бо як нішто хутка прамінае.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Дзеці з Махнатага.*

## Як узнікла Вялікае княства Літоўскае

Суседзі беларусаў стварылі міф быццам бы ў трынаццатым стагоддзі літоўскія князі заваявалі беларускую зямлю. Шмат недаразуменняў выклікала памылковае тлумачэнне назваў, якім карысталіся літоўскія, польскія ці рускія вучоныя. І толькі ў апошніх гадах, калі беларускім вучоным створаны былі ўмовы пісаць сваю гісторыю, пачаў узнікаць зусім іншы яе вобраз, чым той, які стварылі суседзі.

Старажытная краіна званая Літвой знаходзілася на тэрыторыі Беларусі паміж Менскам, Навагародкам, Слонімам і Маладзечнам. Землі, дзе знаходзіцца сённяшняя Літва, называліся ў XIII стагоддзі Жамойць і Аўкштота.

Сярод некалькіх беларускіх княстваў найбагацейшым у палове XIII стагоддзя было Новагародскае, якое вяло пастаянную палітыку яднання ўсіх беларускіх зямель у адну дзяржаву. Такую палітыку праводзілі ў той час князі наймагутнейшых правінцый на тэрыторыі Польшчы, Францыі, Нямеччыны, бо ўсе гэтыя краіны былі падзеленыя.

У 1246 г. літоўскія кланы прагналі свайго князя Міндоўга, які з астаткамі свае дружыны пасяліўся ў Новагародку і ў тым жа годзе быў ахрышчаны ў праваслаўным абрадзе. Пры дапамозе новагародскіх феадалаў Міндоўг заваяваў Літву. У выніку вайны Новагародска-літоўскай дзяржавы з украінскімі галіцка-валынскімі князямі Міндоўг патраціў нанава гэтую краіну. Згодна з феадальнай традыцыяй яго сын князь Войшалк меў падставы заявіць сваю прэтэнзію на гэтую зямлю.

У 1263-1264 гадах Войшалк спалучыў Новагародскую, Літоўскую і Пінскую землі ў адну дзяржаву, якая названая была Вялікім княствам Літоўскім. Новагародак стаў яе першай сталіцай.

Вялікае княства вяло вельмі актыўную палітыку ў адносінах да сваіх балцкіх і славянскіх суседзяў. На працягу пару дзесяткаў гадоў заваявала яно тэрыторыю заселяную балцкімі плямёнамі на поўначы і пачало пашырацца на захад і поўдзень.

Дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага была беларуская. На ёй пісаліся ўсе дзяржаўныя дакументы і заканадаўства. Беларуская культура заняла першараднае месца.

Беларуская вайсковая песня

## БЕЛАРУСЬ НАША МАЦІ-КРАІНА

*Словы Н. Арсенневай*
*Музыка М. Шыплова*

Беларусь наша Маці-Краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і не згінем,
Пакуль Ты нас наперад вядзеш.

Пастаім за цябе як асілкі.
Нашы сэрцы пылаюць агнём,
Дружна, моцна за лёс Твой расцвілы
Супраць Чорнае Моцы мы йдзём!

Не шкада нам жыцця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві,
Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы.

Прысягаем Табе мы сягоння,
Што пакуль з нас адзін хоць жыве, —
Нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
Мы не зганьбім, мы ўславім яе!

*Moderato maestoso*

1. Бе-ла-русь на-ша ма-ці Кра-і - - - - -
на, ты з нас моц-ных зра-бі-ла лю-дзей. Не за-
гі-ну-лі мы і ня згі - - нем, па-куль ты нас на
пе-рад вя-дзеш Не за-гі-ну-лі мы і ня
згі - - - нем, пакуль ты нас на-пе-рад вя-дзеш

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды.

PAŁAC
MNICH
ZAPIDUCH, ZŁODZIEJ.
NOGA
KONIEC, ŚMIERĆ,
ŁAPA
BAGNO (ROŚLINA)
CENA
* НАШ СЛОЎНІК: BAGNO — БАГУН

Адказ на крыжаванку н-р 5: вянок, мана, шар, аса, яма, нара, сон, каса.

Узнагароды — запісныя кніжкі — атрымоўваюць:

1) **Марта Пацэвіч**, кл. III „ц” ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

2) **Кася Каліноўская**, ПШ у Нарве,

3) **Юліта Башун**, кл. III „ц” ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім,

4) **Ася Кананюк**, ПШ у Крыўцы,

5) **Каміля Лабузінская**, ПШ у Кленіках.

Віншуем!



Талон "Зоркі" н-р 9
3.12.1995

## Загадкі з агарода н-р 5

1) Сядзіць пані ў жупане, хто жупан здзірае, той слёзы пралівае.
2) Ні акна, ні дзвярэй — поўна хата курэй.
3) Сама пані ў каморы, а яе косы на двары.
4) Стаіць дуб повен круп, а наверсе струп.

Калі вы адгадаеце хаця дзве загадкі, адказы дашліце ў „Зорку". Тут мы разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадкі н-р 3: агурок, капуста, цыбуля, бурак.

Узнагароду — запісную кніжку (notes) — атрымае **Аня Селеванюк**, вуч. VI класа Пачатковай школы ў Чыжах. Віншуем!

*Першакласнікі з Курашава.*

## Любіць спяваць

Цяжка перадаць вам, як любіць спяваць Бэата Брэнька. Вучыцца яна ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, у другім класе. Цяпер ліцэй месціцца ў надта ж прасторным, новым будынку, у які школа перабралася ўсяго два гады таму назад. Добра тут і зручна вучыцца.

Бэата спявае ў школьным мастацкім калектыве ўжо другі год. У яе вельмі прыгожы голас. Выступала ўжо на розных школьных урачыстасцях, а нават на агглядзе беларускай песні ў Гайнаўцы. Выступала таксама на аглядзе польскай песні.

Цяпер Бэату падрыхтоўвае да выступленняў настаўніца Бажэна Лёўчук, якая ў мінулым годзе закончыла ў Менску Музычную акадэмію. У школе яна вядзе не толькі музычны калектыў, але і вучыць іграць на піяніна.

Бэата настолькі любіць спяваць, што не ўяўляе сабе жыцця без песні. Адзіная яе мара гэта, калі закончыць ліцэй, пайсці вучыцца ў музычным напрамку і стаць спявачкай. Хоча, каб музыка была яе прафесіяй.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

## Старая казка

У невялікім возеры жыла-была малая, зялёная жабка Рымка. У яе была вялікая сям'я: і мама, і бацька, і сёстры, і браты. Усе радаваліся, а Рымка не. Ёй здавалася, што гэтае возера такое сухое, бруднае і там так цесна. Зялёнай жабцы захацелася выйсці далей, глянуць на шырокі свет.

— Куды ты ідзеш, Рымка? — гаварыла мама, — там бусел ходзіць, ухопіць цябе!

— Не ўхопіць, не ўхопіць. Я такой птушкі ўвогуле не бачыла, напэўна папа палохае толькі.

І штодзённа сама ішла падскокам у шырокі свет. Заўсёды была радасная. Дарога была цікавая, трапляліся новыя знаёмыя, новыя месцы для забавы. Рымка ўжо не ведала з кім гуляць. Бавілі з ёю час і мышка, і жаваранак, і вожык, і многа, многа іншых звяркоў. Аднойчы, захопленая падарожжам, Рымка вярталася дадому. Думала аб „сваім" шырокім свеце. Аж тут — што ж гэта?! Нейкі вялікі цень паявіўся над ёй. „Гэты цень вельмі дзіўны, — падумала, — цэлы белы, толькі дзюба ў яго чырвоная". Цень адчыніў дзюбу і... Рымка не вярнулася дамоў.

**Анна Даманская**

## Вершы Віктара Шведа

### Канарэйка

Пабег з катом малакасос
Уранку да суседкі:
— Я канарэйку вам прынёс,
Што выпырхнула з клеткі.

— Гэта ж не канарэйка, кот, —
Ката прынёс, Андрэйка.
— Загляньце коціку ў жывот,
Там ваша канарэйка.

### Жвачка

— Табе задача, —
Татка харошы, —
На жвачкі пачак
Ты дай мне грошы.

Быў я ў нядзелю
У дзедкі Вовы,
Там жвачку елі
Нават каровы.

### Гігіена

Настаўнік запытаў на ўроку
Разважлівую Лену:
— З чым сустракаемся навокал
І што звем гігіенай?

— Гэта аб чысціні навука,
Усім нам зразумела,
Што кажа лішні раз мыць рукі
І нашае ўсё цела.

## Гульня ў „золата"

Усе дзеці садзяцца ў рад. Адзін гулец дзеліць золата, незаўважна хаваючы яго ў руках каго-небудзь. Потым гэты вядучы адыходзіць і крычыць:

— Золата, ка мне!

Той, у каго схавана золата, павінен ускочыць і бегчы да вядучага. Але ўсе пільна сочаць, кожны за сваім суседам; стараюцца затрымаць гульца з золатам. Калі яму не ўдаецца выскачыць з рада, гульня пачынаецца спачатку. Калі ж гульцу з золатам удаецца вырвацца, ён становіцца вядучым. Гульня працягваецца.

**З-ка**

*Івона Асташэўская, Агнешка Зубрыцкая і Аня Грыняўіцкая з Нарвы рыхтуюцца да прадметнага конкурсу па беларускай мове.* **Фота Ганны Кандрацюк**

## *Пішуць школьнікі*

**Дарагая „Зорка"!**

Сябры завуць мяне „Сенё" (сапраўднае маё прозвішча Пётр Сянкевіч). Хаджу ў Пачатковую школу н-р 2 у Гайнаўцы. Я — вучань класа V „е" і пішу Табе ўпершыню.

У III класе прымаў я ўдзел у дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова". Па цяжкіх стараннях усё ж такі навучыўся ндрэнна дэкламаваць верш Ніла Гілевіча „Я беларус". На конкурсе прысутнічала вельмі многа дзяцей. Заняў я III месца і атрымаў цікавыя ўзнагароды.

У гэтым годзе паспрабую яшчэ раз.

**Пятро з Гайнаўкі**

**Прывітанне, Пятрусь!**

Мне вельмі прыемна пазнаёміцца з Табой. Маю надзею, што твой удзел у дэкламатарскім конкурсе апрача ўзнагароды прынясе табе многа-многа радасці.

**„Зорка"**

* * *

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць Табе вучні VI класа Пачатковай школы ў Кленіках. Наш клас вясёлы і налічвае пятнаццаць вучняў. Тут вучацца сем дзяўчат і восем хлопцаў. Выхавацелькай нашага класа з'яўляецца настаўніца польскай мовы магістр Ніна Кобац. Гэта сардэчная, вясёлая і мілая жанчына. Ад другога класа вывучаем мы беларускую мову. Мы любім гэтыя ўрокі, а вядзе іх настаўніца Вера Флёрчук. З настаўніцай беларускай мовы мы чытаем „Зорку", вершы Віктара Шведа, рашаем крыжаванкі, загадкі і чытаем казкі. Мы любім свой класны кабінет. Тут многа кветак і насценных газетак, якія мы дапамагаем настаўніцы рэдагаваць. На паліцах стаяць розныя слоўнікі. Сардэчна запрашаем цябе, „Зорка", наведаць наш клас і нашу школу.

Да пабачэння
**Вучні VI класа**

**Ад рэдакцыі:** Дзякую за запрашэнне і думаю, што напэўна сустрэнемся яшчэ ў гэтым навучальным годзе.

* * *

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Аня Селеванюк, я вучаніца VI класа Пачатковай школы ў Чыжах.

Вельмі табе дзякую за кніжку пра кветкі і касету гурту „Белы сон". Кніжка і касета вельмі спадабаліся мне. „Зорка", запрашаю Цябе на адкрыццё клуба ў Шастакове, якое адбудзецца 26 лістапада 1995 г. На ўроках беларускай мовы мы чытаем „Зорку". Да пабачэння на ўрачыстасці ў Шастакове.

**Аня**

**Ад рэдакцыі:** Цешыць мяне вельмі, што са школы ў Чыжах многа вучняў малюе і піша ў „Зорку". А за ўзнагароды трэба дзякаваць дашкольнікам з беларускага прадшколля ў Беластоку, бо гэта яны разыгрываюць конкурсныя прызы.

*Юры Баена*

# Пачатковыя школы ідуць пад самаўрады

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Управы гарадоў і гмін абавязаны неўзабаве выказацца ў карысць найбольш аптымальнага спосабу кіравання пачатковымі·школамі і дзетсадамі. Сёння самаўрады стаяць перад выбарам паміж крайнімі варыянтамі: у поўным даць свабодную руку кіраўніцтвам асветных устаноў, абмяжоўваючыся да падзелу субсідыі, або стварыць калектыў прафесіяналаў, якія выручаць дырэктараў амаль ва ўсіх фінансавых, тэхнічных, кадравых, а нават і канцылярскіх справах. Да прыняцця школ трэба падрыхтавацца сур'ёзна, без балагану і шкоднай панікі. Часу, што надышоў, нельга праспаць. На працягу некалькіх месяцаў працаўнікі рэфератаў або аддзелаў асветы прыгледзяцца ўмовам навучання ў паасобных установах, зробяць аналіз кадраў, ацэняць тэхнічнае абсталяванне, упарадкуюць маёмаснае становішча школ. Да ўтрымання школ самаўрады ўсё-такі будуць даплачваць, нават пры тэрміновым паступленні дзяржаўнай субсідыі.

Па-мойму, прыярытэтнай справай становіцца стварэнне ў кожнай гміне клімату, які спрыяць будзе асвеце, школе, вучню і настаўніку, павышанню выхаваўчых магчымасцяў асветных устаноў. Дамінуючым павінна аказацца думанне пра будучыню адукацыі, каб тая — як у апошнія гады — не была абмежаваная да практыкавання памяці вучняў. Калі школа надалей будзе толькі дыдактычным прадпрыемствам, то праз пару гадоў пацерпіць паражэнне.

Многія гміны ў краіне маюць больш амбітныя планы адносна асветы, чым гэта вынікае з абавязкаў рэалізацыі асветнага закону. У гэты спосаб праяўляюць значны клопат пра выхаваўчыя і дыдактычныя вынікі школы. Паводле іх разумення, пытанне наконт будучыні — гэта між іншым пытанне пра істоту школы, яе арганізацыю і мэты, якія яны абавязаны рэалізаваць, каб спаўняць імкненні бацькоў і моладзі, каб у рэшце рэшт стаць асяродкам многіх ініцыятыў, што спрыяюць усебаковаму развіццю маладога чалавека — вучня.

Закон аб сістэме асветы стварае юрыдычныя магчымасці фінансавання пазаўрочных заняткаў у школах, а менавіта: мастацкіх калектываў, прадметных гурткоў, ураўняльных заняткаў, карэкціровачнай гімнастыкі, спартыўных заняткаў і мерапрыемстваў. З гміннай касы можна будзе пакрыць кошты ведзеных у некаторых школах аўтарскіх (эксперыментальных) класаў — тэатральных, экалагічных, турыстычна-краязнаўчых, класаў з пашыраным навучаннем замежнай мовы або інфарматыкі. Амбітная школа возьмецца за рэалізацыю праграмы, прысвечанай культурнай спадчыне рэгіёна, за ствaранне і развіванне гуманістычнай культуры, арыентаванай „на чалавека" (моладзь, як правіла, адкрытая на свет эстэтычных каштоўнасцяў). Шляхам дадатковых заняткаў ёсць шанц падтрымоўвання вучняў таленавітых, працавітых, амбітных, незалежна ад эканамічнага статусу іх сем'яў. Усё гэта дае асаблівую чароўнасць і бляск данаму гораду або вёсцы. Адукацыя робіцца цікавая, радасная, больш паспяховая, людская.

Трэба яшчэ разумець, што на асвеце нельга ашчаджаць. Грошы выдаткаваныя на навучанне дзяцей пасля нейкага часу вяртаюцца да падаткаплацельшчыкаў. Толькі блізарукія могуць аспрэчваць сэнс дзеянняў, якія спрыяюць тварэнню аптымальных умоў для развіцця дзяцей і моладзі.

Школа ў мясцовым асяроддзі, асабліва вясковым, спаўняе інтэгруючую і культуратворчую ролю. У гэты спосаб робіцца яна ў поўным значэнні слова грамадскай установай.

Прагрэсіўная і адначасова прагматычная гмінная адукацыя — гэта шанц амбітным настаўнікам, якія эфектыўна хочуць працаваць для свайго грамадства, для малой айчыны. З другога боку, дзякуючы аўтарскім праграмам, усякага роду дадатковым асветна-культурным заняткам, ствараецца магчымасць хаця б частковай паправы фінансавай кандыцыі настаўніцкага стану.

Тое, як дзеці будуць адукаваныя, у найбольшым залежыць ад педагагічных кадраў. Шмат што залежнае таксама ад кіруючых школамі дырэктараў.

Сёння дырэктары асветных устаноў дзейнічаюць у зусім іншых умовах, чым яшчэ некалькі гадоў таму назад. Кошты ўтрымання ўстаноў у значнай меры спіхнуты ўніз. Замест думаць над новымі канцэпцыямі ў галіне выхавання ці адукацыі, дырэктар прымушаны ісці за дапамогай да бацькоў, спонсараў, управы гміны або горада. Кемлівы і прадпрымальны дырэктар, калі толькі школа мае такія магчымасці, выкарыстоўвае яе базу, каб зарабіць дадатковыя грошы на патрэбы сваёй установы. Выдумоўванне розных гаспадарчых стратэгій паглынае шмат часу. Запрацаваны дырэктар выключае дырэктара думаючага. Трэба аднак гадаваць такую надзею, што перыяд стагнацыі міне, а дырэктар стане сапраўдным дырэктарам, а не жабраком.

Сучасны дырэктар павінен быць аўтэнтычным лідэрам, не толькі адміністратарам, але інспіратарам, менеджэрам. Гэта добра, калі яго творчыя памкненні і пошукі перавышаюць магчымасці гміны. Прафесіянальны дырэктар павінен абучыцца ўмеласці самастойнага і творчага вырашання праблем, тварэння аўтарскіх канцэпцый развіцця сваёй установы, уводжання педагагічных навін, падборкі настаўніцкіх кадраў, кіравання калектывам, арганізавання супрацоўніцтва з самаўрадам, бацькамі вучняў, карыстання асветным правам і фінансамі, прымянення камп'ютэра ў кіраванні школай, умеламу публічнаму паказу дасягненняў школы, арганізацыі ўласнай працы і адпачынку. Вельмі лічыцца яшчэ „культура душы" — інакш кажучы, умеласць сужыцця з людзьмі. Бо ўвесь час думкі ідуць пра тое, каб дасканаліць працу школы, павышаць узровень адукацыі і выхавання.

* * *

Вышэйпублікаванае моцна кранае і беларускія справы.

Змены ў адміністрацыйным падзеле краіны і рэарганізацыі сістэмы асветы на працягу 50 пасляваенных гадоў пераважна білі беларускую культуру і школьніцтва на Беласточчыне па крылах. Сёння беларуская асвета існуе тут як маргінальная, рэліктавая ды пагасаючая з'ява. Не лепш маецца наша нацыянальная культура.

Існаванне культуры і асветы карэннага беларускага насельніцтва Беласточчыны — гэта кроўная патрэба нас тут усіх, але і маральная справа — пытанне III Рэчы Паспалітай ды важная, бо козырная карта ў патрабаваннях адносна польскай меншасці ў Беларусі. Пераход пачатковага школьніцтва пад апеку мясцовых самаўрадаў, па-мойму, можа стварыць жаданне, каб дзяржаўнага рангу праблемы, напрыклад, захацелі вырашаць радныя самаўрадаў, войты, бурмістры або нейкія чыноўнікі гміннага апарату. Вядомае ўсім жа тут аднак тое, што калі парушаць пэўнае табу і святасць, то выгнанне з раю іх не сустрэне... Як магу, баранюся, каб не думаць пра далейшую, ужо канчатковую дэградацыю беларускай моўнай і культурнай субстанцыі, пра няўхільныя змены!

Невялікіх фінансавых патрэб меншаснага школьніцтва ў Польшчы хіба не прадбачвае алгарытм асветнай субсідыі. Але ж датацыя мажлівая і ў іншай форме! Пазнаўшы некаторыя тутэйшыя рэаліі (напрыклад г.зв. справу Яновіча) яшчэ перад 1 студзеня 1996 года маю апраўданую ахвоту галасна думаць так: калі войтам не будзе выразна сказана ці напісана, каб даныя грошы прызначыць на меншасную адукацыю, то ў недалёкай перспектыве часу вельмі рэальным стане крах навучанню беларускай мове. Вядома, самаўрадавыя „дэцыдэнты" будуць тлумачыцца скромнасцю сродкаў у бюджэтах бедных гмін. Знойдуцца яшчэ і такія, якія ў неспрыяльным грамадскім клімаце захочуць „stanąć ponad podziałami", што ў нас на практыцы абазначае даць задавальненне моцным.

Для прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці ў органах гміннага самакіравання (у тым ліку і дырэктараў школ) погляды на далейшую прысутнасць беларушчыны — гэта паказчык іх талерантнасці ды агульнай культурнасці, для беларусаў — справа патрыятычнага рангу. А што будзе, калі патрыётаў малой айчыны не стане, калі звядуцца або гуртам пойдуць у начальнікі? Што тады будзе?

Ужо неўзабаве, гэтым разам праз прызму асветы, атрымаем адказы на нашы адвечныя нацыянальныя пытанні: Хто мы? Якія мы людзі?

**Юры Баена**

# З любові да беларускай песні

*Працяг са стар. 1*

што дасведчыў дзейнасці толькі Беларускага таварыства.

*— Пастаянную прысутнасць паслоў СЛД на фэсынтах БГКТ у беларускім асяроддзі, а таксама і ў беластоцкай прэсе, тлумачылі як заангажаванне гэтай арганізацыі ў выбарчую кампанію Аляксандра Кваснеўскага.*

— Я хачу сказаць адназначна, што, пакуль прыняў запрашэнне на фэстын — дзесьці так у ваколіцах ліпеня — то спытаў кіраўніцтва БГКТ, ці гэта толькі нас у такі спосаб вылучылі, ці запрошаны ўсе паслы. Адказалі мне — я не бачу падстаў, каб сумнявацца ў праўдзівасці — што запрашэнні накіравалі ўсім пасольскім і сенатарскім бюро ў Беластоку. Удзельніцтва ў гэтых мерапрыемствах застаецца толькі справай ахвоты і магчымасці паслоў і сенатараў. Я не скрываю, што я вырас у асяроддзі вёскі, дзе асноўнай мовай была г.зв. простая мова, дзе было шмат супольнага з беларускай культурай, песнямі. І хаця я асабіста ў кожным дакуменце пішу, што я па паходжанні паляк, ну бо я паляк, тым не менш гэтае дзяцінства, маладосць не прайшлі бясследна і я па сённяшні дзень вельмі люблю беларускія песні, музыку. Я з прыемнасцю ахвяраваў амаль усімі нядзелямі лета не таму, каб рабіць кампанію, а таму, што мне гэтыя фэстыны падабаюцца. Пасол Сяргей Плева, як член Сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей, на такіх мерапрыемствах павінен быць з абавязку. Але мы на фэстынах не шукалі папулярнасці, толькі раз згадзіліся ўзяць слова публічна са сцэны. А так проста сядалі і слухалі. А калі арганізатары хацелі падняць ранг імпрэзы і віталі афіцыйных гасцей, а паміж імі і нас, то шчыра кажучы, нам гэта крышку і належылася.

*— У час сустрэчы паслоў з Камісіі нацыянальных меншасцей з віцэ-ваяводам Гжэгажам Рыкоўскім і прэзідэнтам Беластока Кшыштафам Юргелем былі вызначаны тры галоўныя пастулаты беларусаў, якія трэба вырашыць. А менавіта: устанавіць пры ваяводзе пасаду ўпаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей, стварыць Беларускі навуковы інстытут у будучым універсітэце ў Беластоку і вырашыць статус будынка пры вуліцы Варшаўскай. Ці паслы СЛД удзельнічаюць у працэсе вырашэння гэтых пытанняў?*

— Так, адназначна так. Нядаўна разам з паслом Плевам сустракаліся мы з ваяводам. Ваявода сказаў, што з 1 студзеня такі ўпаўнаважаны пачне працу. Адкрытай справай застаецца хто мае ім быць і якія будуць яго кампетэнцыі і абавязкі. Мой погляд такі, што павінен быць гэта чалавек, які ведае праблемы меншасцей, але сам не прыналежыць да ніводнай з іх. Каб не стварыць уражання, што якаясьці меншасць „большая". Такога чалавека павінен знайсці ваявода, мы тут не хочам нікога прапанаваць ці падсоўваць. Другая справа — мы поўнасцю падтрымліваем патрэбу стварэння якоесьці навуковае ўстановы, менш важная яе назва, якая б у будучым самастойным універсітэце ў Беластоку займалася беларускімі справамі, у шырокім гэтага слова разуменні. Мы ў размовах з кампетэнтнымі ўладамі будзем падтрымліваць усе ініцыятывы ў гэтай справе, а можа нават выступім з якімісьці сваімі прапановамі. І трэцяя справа, самая цяжкая. Для мяне здаецца дзіўным, што Беласток, які налічвае 280 тысяч жыхароў, сярод якіх ёсць вялікае асяроддзе, ці то беларускае, ці спрыяючае беларусам (не будзем гуляць у працэнты), не знаходзіць грошай на дапамогу гэтаму асяроддзю. У той час, калі на Галерэю Сьляндзінскіх, пры якой гуртуецца ўсяго групка людзей, улады горада даюць мільярд, а на касцельную бібліятэку — паўмільярда. Я не кажу, што не трэба на гэта, але ж можна знайсці і тыя 600 мільёнаў на тое, каб пагасіць задоўжанасць сядзібы Беларускага таварыства. Гарадскія ўлады хочуць перадаць гэты будынак ваяводу, пад дзяржаўную адміністрацыю. Наколькі я ведаю, дзяржава не можа фінансаваць утрымання будынка, а толькі дае датацыі на канкрэтныя ініцыятывы. Калі ласка, няхай гарадскія ўлады здымуць задоўжанасць, а потым перадаюць аб'ект, няхай пакажуць сваю добрую волю. Тады ваявода зможа перадаць будынак Таварыству і я перакананы, што будуць ім карыстацца ўсе беларускія аганізацыі.

*— У час адкрыцця гімнастычнай залы пры Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім Вы абяцалі скромны падарак ад Міністэрства фі-зічнай культуры і спорту — 30 мільёнаў старых злотаў. Калі дырэктар Ляшчынскі выслаў на пададзены Вамі адрас падзяку і нумар банкаўскага рахунка, у адказ атрымаў тоўстую брашуру з інфармацыяй, якія ўмовы трэба выпаўніць, каб атрымаць такую дапамогу. Адзін з пунктаў такі, што фонд, які можа даць дапамогу, гарантуе сабе права на кантроль не толькі таго, як будзе расходавана гэтая датацыя, але і бухгалтэрыі ўсяе ініцыятывы.*

— Гэта нейкае непаразуменне. Дырэктар Ляшчынскі павінен быў паінфармаваць мяне пра гэта. Я думаю, што ўзялося гэта з таго, што мяне няправільна тады зразумелі. Міністэрства не дало б грошай, а нейкія спартыўныя прыборы на такую суму. Тым не менш, прыкра мне, што я ад вас такое чую. Калі буду ў Варшаве, я пастараюся гэта высвятліць. Калі высокапастаўленая асоба падпісвае паперу, што падтрымлівае нейкую ініцыятыву, то гэта значыць, што мае права падпісацца, мае грошы і ніякая гэта не „ліпа". Як пасол не хачу прымаць удзелу ў „ліпе".

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў**
**Мікола Ваўранюк**

 

# ... а мова жыве і будзе жыць

**З прафесарам АНАТОЛЕМ ГАРНАКОМ, віцэ-міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

*— Спадар міністр, мы чулі, што Вы на гэтай пасадзе працуеце ўжо амаль дванаццаць гадоў, дык, пэўна, бачылі не адно і пра многае маглі б нам расказаць. Але спачатку: адкуль Вы прыйшлі на гэту пасаду?*

— Закончыў я Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, што ў Горках, Магілёўскай вобласці, і заўсёды быў між адукацыяй і сельскай гаспадаркай. З шэсцьдзесят трэцяга года я знаходжуся ў Мінску, але спачатку быў яшчэ дырэктарам сельскагаспадарчага вучылішча ва Уздзе. Два гады працаваў на Кубе саветнікам міністэрства адукацыі Кубы па пытаннях падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых і тэхнікаў. А тут сапраўды працую ўжо дванаццаты год.

*— На Беларусі цяпер адбываецца шмат змен. Многія лічаць, што адмена прынятых раней нацыянальных сімвалаў і афіцыйнае двухмоўе гэта вялікі крок назад, у напрамку страты незалежнасці.*

— Ніводная паперка не выходзіць з міністэрства на іншай, чым беларуская, мове!

*— Аднак жа ў сітуацыі дзяржаўнага двухмоўя роля беларускай мовы можа застацца толькі для запісаў актаў, а ролю жывой, гутаркавай мовы ў гарадах (і ўсё шырэй на вёсцы) будзе выконваць руская мова. Невялікі для нас гонар, калі мова наша ператворыцца ў латынь...*

— Я думаю, што мы да гэтага не дапусім. Цяпер у нас выхаванне дзіцяці, беларускае выхаванне, пачынаецца ад прадшколля. Тут кшталтуецца чалавек — і таму гэта для нас прыярытэтная справа. Мы вельмі высока цэнім факт, што і ў Беластоку створана беларускае прадшколле і, як бачыце, падмацавалі свае адносіны да гэтага факту прывезенымі дзецям дарамі.

*— ... хаця і ў дзетак на Беларусі сёння ўсяго гэтага не занадта многа?..*

— Урад Беларусі высока ацэньвае заангажаванне тутэйшых беларусаў у гэту справу і надалей будзе дапамагаць гэтаму прадшколлю — тут жа выхоўваюцца свядомыя беларусы.

*— Як вядома, ёсць праблемы з падручнікамі, выдадзенымі пасля 1992 года. Ці выкарыстоўваюцца яны ў дадны момант? А мо ў школах вярнуліся да старых падручнікаў?*

— У матэматыцы, фізіцы, мове, літаратуры няма вялікіх праблем. Усё ўпіраецца ў гісторыю. Некаторыя моманты суседнія дзяржавы трактуюць па-рознаму між іншым, Польшча і Літва. Калі ўзяць падручнік гісторыі для чацвёртага класа, дык вынікае з яго, што беларусы нічога іншага не рабілі, адно біліся з рускімі. Падручнікі пасля дзевяноста другога года засталіся, але ёсць метадычныя ўказанні, якія былі апублікаваны ў „Настаўніцкай газеце". Адно з іх, напрыклад, гаворыць, каб не распальваць нацыянальнай варожасці. У першыя гады „перастройкі" ў аўтарскія калектывы траплялі выпадковыя людзі. Цяпер для гэтых мэт ствараюцца большыя калектывы вучоных.

*— Ці ўсе падручнікі для сярэдніх школ друкуюцца на Беларусі?*

— Раней дзевяноста працэнтаў друкавалася ў Маскве. Толькі некаторыя — па беларускай мове і літаратуры — друкаваліся ў Мінску. Зараз мы практычна ўсе падручнікі выдаем самі. Пры нашым міністэрстве ёсць цэнтр кнігі, які робіць заказы, заключае дагаворы з выдавецтвам. Ужо гады чатыры, як мы самі пачалі рэгуляваць гэту справу. Першыя гады былі цяжкія.

*— Бадай, не сакрэт, што да такой сітуацыі давялі нацыянальна-дэмакратычныя зрухі ў апошнія гады?!*

— Калі развальвалася Рымская імперыя, дык Сакрат сказаў, аднак, што дэмакраты не ведаюць, дзе спыніць развал, а дзяржаўцы не ведаюць, як абараніцца. Зрэшты, Сакрата ж і забілі дэмакраты.

*— У нашай сітуацыі выйшла амаль наадварот. Цікава, ці пратрывае рэнесанс беларускай мовы на Беларусі? Для нікога ж не сакрэт, што ўсяго ад некалькіх гадоў можна было яе пачуць на гарадскіх вуліцах, ці ў прыватнай гутарцы. Ды і так была яна як бы забраніравана для беларускіх літаратараў, дзеячаў БНФу, мастакоў.*

— У нас яе ўсе добра ведаюць, завяраю вас. Кожны інтэлігентны чалавек павінен сёння ведаць тры-чатыры мовы. Іншага выйсця ён не мае!

*— Але ж вядома і тое, што інтэлігентны чалавек, які жыве ў сваёй краіне, на сваёй зямлі, наогул гутарыць на роднай мове!*

— Я думаю, што з гэтага не трэба рабіць трагедыі. Ва ўсіх школах сёння вывучаецца беларуская мова — ад пачатковых, сярэдніх — да прафесіянальна-тэхнічных і тэхнічных вучылішч. Што датычыцца педагагічных вышэйшых навучальных установ і педвучылішч, дык там выкладанне ідзе поўнасцю на беларускай мове. Але дзяржаўнае двухмоўе неабходнае ў нас. Гэта вельмі важна для навукі. У Фінляндыі, напрыклад, жыве ўсяго шэсць працэнтаў шведаў, а другая дзяржаўная мова — шведская.

*— Менавіта — другая. А вось апошнія прэсавыя данясенні з Беларусі гавораць аб тым, што ад часу славутага рэферэндуму пачалося наступленне на беларускія школы. Яны масава зачыняюцца, гвалтоўна русіфікуюцца. Аб гэтым, напрыклад, ішла гутарка на пасяджэнні Таварыства беларускай мовы. Як бы Вы скаментавалі гэты факт?*

— Я думаю, што гэта не зусім так. Паглядзім, што будзе праз год-два. Русіфікацыя ішла не адзін, а дзесяткі гадоў, а беларуская мова засталася, жыве і будзе жыць!

*— Дзякую за Ваш аптымізм!*

**Гутарыла і фатаграфавала**
**Ада Чачуга**



*Віцэ-міністр адукацыі і навукі РБ Анатоль Гарнак выступае на сустрэчы з вучнямі Бельскага беларускага ліцэя, 25 кастрычніка 1995 года.*

# Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы

4 снежня святкуецца адно з дванаццаці вялікіх, гадавых святаў — Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы. Падзея, якая паслужыла ўстанаўленню ў VI стагоддзі гэтага свята, апісана ў апокрыфе ў г.зв. Протаевангеллі Якуба. Згодна з ім, бяздзетныя, састарэлыя Іаакім і Анна абяцалі, калі народзіцца ў іх дзіця, ахвяраваць яго Богу. Іхныя малітвы здзейсніліся і калі іхнаму Дзіцяці Марыі споўніліся тры гады, яны ўрачыста аддалі яе на выхаванне ў Іерусалімскі храм. Кіраваны таемным голасам Божым архіерэй Захарыя ўвёў Марыю ў Ствятое святых, куды сам мог заходзіць толькі адзін раз у год.

Пакідаючы дачку ў храме, Іаакім і Анна даручылі апеку і духоўнае кіраўніцтва над ёю ўдовам і дзевам. Практычна для састарэлых бацькоў гэта было развітанне з дачкою, ахвяра іхнай бацькоўскай любові. Іхнаму самаадрачэнню спадарожнічала і першая ахвяра дзіцячай любові Марыі. Не суджана ёй было цешыцца бесклапотным дзяцінствам сярод равеснікаў і тыповымі дзіцячымі гульнямі. Яна без жалю пагадзілася на строгі спосаб жыцця. Адзінаццаць гадоў заставалася яна пры храме, вывучала Святое Пісанне, займалася рукадзеллем і апекай над старымі. Такім чынам праз самаачышчэнне яна рыхтавалася да ролі Маці Божай.

Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы звяртае ўвагу на значэнне рэлігійнага выхавання дзяцей. „Як кроплю вады, — пісаў св. Іеранім, — можна павесці ў любым напрамку, гэтак і дзіцё можна павесці ў добрым або дрэнным напрамку". Ніхто не заменіць таксама бацькоўскага прыкладу. Сляды, па якіх ідзе дзіцё, гэта хутчэй за ўсё сляды, якія пакінулі бацькі. Часта можна пачуць нараканні бацькоў, што дзеці і моладзь іх не шануюць. Адкуль яны будуць захоўваць запавет „Шануй айца і маці", калі бацькі не прытрымоўваюцца ўсіх дзесяці запаведзяў. Вось таму св. Іаан Залатавусты слушна заўважыў, што „дзеці забытыя бацькамі падчас выхавання, забудуць пра бацькоў, калі стануць дарослымі".

Рэлігійнага выхавання не заменяць ні веды, ні спорт, ні піянерская арганізацыя. Трэба дзіця вучыць, што ёсць Усёведны і Справядлівы Бог, які ўсё бачыць і ацэніць усе нашы ўчынкі. Трэба дзецям гаварыць, што Бог любіць дабро і адвяртаецца ад зла. Засваенне гэтых праўдаў будзе мець вырашальны ўплыў на ўсё жыццё.

Разумелі гэта нават людзі далёкія ад рэлігіі. Вальтэр гаварыў: „Заклінаю кожнага бацьку, каб падрыхтоўваў будучыню, якая ведала б Евангелле, каб выразьбіў у дзіцячым розуме праўды, якія яно заключае". Дзідро, вядомы сваім варожым стаўленнем да рэлігіі, сам вучыў дачку катэхізісу. У адказ на здзіўленне свайго сябра Дзідро сказаў: „Калі б я ведаў нешта лепшае, што магло б выхаваць яе, каб шанавала бацькоў, каб сумленна і годна выконвала потым абавязкі жонкі і маці, ахвотна даў бы ёй гэта ў рукі. На вялікі жаль, няма на свеце нічога, што магло б замяніць катэхізіс. Галоўнае, чаго патрабуе асабліва моладзь, гэта рэлігія бо яна з'яўляецца фундаментам маралі". — „Лепш нічога не ведаць, — пісаў Віктар Гюго, — чымсьці мець немаральныя веды".

У 1882 годзе на сцяне роднай хаты слаўнага хіміка Людвіка Пастэра ўстанавілі памятную дошку. Успамінаючы гэты дом і сваіх пакойных бацькоў, Пастэр напісаў: „Дарагія мае Ойча і Маці, якія сціпла жылі ў маленькай хатцы. Я Вам вельмі ўдзячны за ўсё. Мая адважная мама, агонь твайго энтузіязму перайшоў на мяне. Каханы мой ойча, табе ўдзячны за настойлівасць у штодзённай працы. Глядзець увысь, усё больш вучыцца і ўзрастаць — гэтага ты навучыў мяне. Каханыя, будзьце благаслаўлёны за тое, чым вы для мяне былі і дазвольце ў гэтай хаце з глыбокай пашанай дзякаваць вам".

Пасля Алімпійскіх гульняў у Мельбурне амерыканка, заваёўніца залатога медаля, заявіла здзіўленым журналістам, што пакідае спорт. Як жа гэта так? У росквіце сілаў і магчымасцяў руйнаваць такую кар'еру? Выдатная спартсменка выясніла аднак, што мае гадовае дзіця і дзеля яго выхавання адмаўляецца ад спартыўнай кар'еры, усіх магчымых медалёў і славы. На вялікі жаль, не ўсе бацькі вышэй за ўсё ставяць выхаванне дзяцей.

На гэтыя пытанні незвычайнай важнасці звяртае ўвагу свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы. Далёкі ў часе, але павучальны ды карысны і для нас прыклад Іаакіма і Анны, якія даручылі храму выхаванне дзіцяці, паказвае і нам самы пэўны, надзейны і збавіцельны шлях.

**а. Канстанцін Бандарук**

<u>25-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы</u>

# Пра неразумнага багача

*(Лук., 12: 16-21)*

У 12-м раздзеле Евангелля паводле Лукі прыводзіцца прытча пра неразумнага багача. Гэты чалавек сабраў аднаго году вельмі добры ўраджай у полі і вырашыў: „Разбяру гумны мае і пабудую большыя, і збяру туды ўвесь хлеб мой і ўсё дабро маё. І скажу душы маёй: многа дабра ляжыць у цябе на многія гады: еш, пі, весяліся. Але Бог сказаў яму: неразумны! У гэтую ноч душу тваю возьмуць у цябе; каму ж застанецца тое, што прыдбаў? Так бывае з тым, — закончыў Хрыстос сваю прытчу, — хто збірае скарбы для сябе, а не ў Бога багацее" (Лук., 12: 18-21).

Прытча пра неразумнага багача вобразна пацвярджала навуку пра выбар каштоўнасцей у жыцці. Хрыстос пераконваў слухачоў: „Не збірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль ды іржа нішчаць. Не турбуйцеся дзеля душы вашае, што вам есці і што піць, ні для цела, у што адзецца. Не турбуйцеся пра заўтрашні дзень, бо заўтрашні дзень сам будзе турбавацца пра сябе. Годзе для кожнага дня свайго ліха. Найбольш шукайце Царства Божага, а тое ўсё дадасца вам" (Лук., 12: 22-31). Прытчы ў ніякім выпадку нельга разумець літаральна. У ёй не заклікаецца да бяздзейнасці і разлічвання на міласціну з неба. Чалавек павінен быць працавіты і прадбачлівы. Пакуль малады і здаровы, павінен падумаць пра недалужную старасць. Ён павінен эканоміць, улічваць будучыя патрэбы і магчымасць „худых гадоў", каб не быць цяжарам для іншых. Хрыстос дасканала разумеў, што чалавечыя імкненні і пажаданні пераважна тычацца зямных, бытавых праблемаў, а грошы і ўлада з'яўляюцца галоўнай мэтай і прадметам мар. Яны, быццам неразумны багач, вяршыняй шчасця лічаць бясконца „есці, піць, весяліцца". Гэта для іх галоўная каштоўнасць у жыцці, і каб дасягнуць такога бесклапотнага стану, трэба абавязкова быць багатым. І ўсё было б добра, калі б не трагічная іронія лёсу. Адно, гэта тое, што ў любы час чалавек можа памерці і не пакарыстацца багаццем. Другая, не менш сумная акалічнасць, што багацце не толькі не забяспечвае даўгавечнасці ці здароўя, але нават самазадавальнення і шчасця.

Матэрыяльны дабрабыт і цялесныя ўцехі не могуць заспакоіць усіх чалавечых прагаў і патрэбаў. Заўсёды застанецца нейкая ненасытнасць, нешта недасягненае. З свайго ўласнага назірання, з літаратуры і гісторыі кожны можа падшукаць пацвярджэнне гэтай праўды, я аднак хачу прывесці прыклад са Святога Пісання. Тры тысячы гадоў таму цар Саламон напісаў пра сябе наступнае: „Я пабудаваў сабе дамы, насадзіў сабе вінаграднікі, пасадзіў гароды і сады, сабраў таксама серабра і золата, прыдбаў слугаў і нявольніц, завёў спевакоў і спявачак" (Экл., 2: 4-8). Інакш кажучы, Саламон меў усё, чаго чалавек можа сабе толькі пажадаць, аднак радасці ў гэтым ён усё роўна не знайшоў. Шчасце азмрочвала свядомасць, што разам са сконам жыцця ўсяму гэтаму прыйдзе канец. „І зненавідзеў я, — пісаў Саламон, — усю гарапашнасць сваю, што рабіў пад сонцам; бо я пакіну ўсё чалавеку, які прыйдзе пасля мяне. І хто ведае, разумны ён будзе ці дурны?" (там жа, 18-19). На жаль, спадчына неаднойчы трапляе ў рукі лянівых і дурных, у кожным разе не тых, што заслугоўваюць яе. І Саламон дайшоў тады да вываду, што „ўсё марнасць, а галоўнае — баяцца Бога і выконваць запаветы Яго, бо ў гэтым усё для чалавека" (там жа 12-13).

Евангельская прытча пра неразумнага багача гаворыць аб памылковасці чалавечых прыярытэтаў, аб парушэнні прапорцыяў у выбары каштоўнасцей. Бясконца ненасытным, прагным і заклапочаным пра другараднае яна напамінае: „Не хлебам адным жыць будзе чалавек" (Матф., 4: 4).

**а. Канстанцін Бандарук**



 

# Скарб

Дарафей Мацюкевіч перад смерцю сказаў Мірону, свайму ўнуку, каб скарб шукаў, што ягоны дзед Аніська закапаў, едучы ў Сібір, у агародзе пад бэзам. Той стары пакручаны куст рос калісьці каля хаты, каля самое сцяны, і няма даўно ўжо таго дому, стаіць новы, ужо трэці пасля таго, які пакінулі, ідучы ў паняверку. Згарэла тады ўся вёска, і вярнуліся ў дваццаць трэцім на парослыя буйным зеллем і маладымі дрэўцамі руіны. Яшчэ цяпер на градках, нават неглыбока капаючы, знойдзеш паламаныя цэглы, абломкі паліванай кафлі, завесы, пераедзеныя іржой да тоненькай сэрцавіны цвікі, счарнелыя лыжачкі, медныя грошыкі. Але сярод гэтага ёсць і рэшткі хаты спаленай фашыстамі, калі пацыфікавалі вёску, як усе прыпушчанскія пасяленні.

Калі дзед Дарафей ціха і спакойна паміраў, Мірон хадзіў у другі клас. Дзед, аслаблы і бледны, як шэрыя падушкі, узбітыя высока бабай Маланеяй, паўсядзеў, беспамылкова перабіраючы жоўтую бліскучую нітку ў пакручаных доўгіх пальцах — сплятаў сетку клюмлі і „плёў кашалі", як па аповеды мужа гаварыла Маланея. Баба адразу адрэзала, гледзячы на разяўлены рот найстарэйшага ўнука і нашыя вырачаныя вочы, утаропленыя ў дзедаў бяззубы рот, з якога выходзілі незвычайныя словы:

— Ты, Дарафей, не вучы ўнука лухты, а то і з яго вырасце цудак, як усе Мацюкевічы. Скарбы, скарбы! Вам адно ў галаве: ганяцца па свеце за невядома чым, а з таго хлеба есці не будзеш!

— Маланея, гэта не лухта і не глупствы. Гэта — гісторыя! Ты, маці — баба, а бабскае *дзела* — печы пільнаваць. Не сунь носа ў такія справы. Ужо Ева давяла да таго, што *нас* выгналі з Раю!

Дзед Дарафей быў у гэтым упэўнены — ва ўсім віна кабет. І войны праз тое, гаварыў (а мне, адзінай дзяўчынцы ў кампаніі яго слухачоў, было вельмі прыкра, і мне хацелася быць хлопчыкам), што бабы хочуць кіраваць светам: давай ім *украшэнія*, давай ім футры звяроў, давай грошы! Біблію чытаў дзед Дарафей, з якой мы мала разумелі, з распевам, а белая доўгая барада лагодна клалася на пажаўцелыя, набухлыя старонкі з растрэпанымі берагамі. З гэтай Кнігай сям'я ў бежанстве была, перажыла яна разам з Мацюкевічамі ўсе войны і ўлады...

Калі дзед Дарафей памёр, Міронаў бацька Васіль хацеў нават тую кнігу ў труну яму даць, бо з яе чытаць не ўмеў, але баба Маланея запярэчыла: досыць нябожчык на тым свеце начытаўся, хопіць яму „папера" ад бацюшкі, а такая кніга рэч каштоўная, да таго ж святая, хай тады будзе памятка па старым. І тая Біблія, разам са згадкай пра закапаны ў агародзе скарб і няяснымі прароцтвамі Сібіліі, якіх мы слухалі як казак, асталіся ў памяці і Мірона, і нашай, суседскіх дзяцей.

Я была старэйшая за Мірона на год. Быў гэта той час, калі я была мацнейшая за яго, клала яго на лапаткі і абганяла ў мяч, даказваючы, што і я магу быць хлопцам. І Мірон тады слухаў мяне, і, пераможаны ў вялікай бітве на выгане, выконваў мае загады і прыслухоўваўся да маіх прапаноў. І я рашыла ў адзін жнівеньскі вечар, калі мы сядзелі з Міронам, яго малой сястрой Крысцінкай, Юзікам і Шурам пад ліпай, з вялікімі галушкамі таўканіцы ў пакусаных камарамі руках: будзем шукаць той дзедаў скарб!

Канікулы канчаліся ў момант, калі мы ўжо засумавалі за школай, настаўнікамі і сябрамі. У школу хадзілі мы тры кіламетры і хапала нам часу на планаванне раскопак. Але як капаць, калі ў агародзе Мацюкевічаў на градках растуць яшчэ буракі, цыбуля, капуста?.. Узяліся мы ўсе дапамагаць збіраць увесь плён, каб, пакуль замаразкі, пачаць свае пошукі. За ганачкам паставілі рыдлёўкі і матычкі. Меркавалі, калі пачаць работу — можа, ноччу? Лепш, усё ж, пачынаць справу легальна.

— Цёця Каця, ці можна будзе вам скапаць агарод? Нам трэба „залічыць" практыку ў школе, маем такую „акцыю", — запрапанавала я аднойчы ў палове кастрычніка матулі Мірона.

Стаялі мы як салдацікі, затаіўшы дыханне — дазволіць, ці прыйдзецца нам капаць ноччу, у таямніцы? Агарод вялікі, куст бэзу разрослы — работы шмат будзе...

— А не лепш брацца вам за свае агароды?.. Ну, калі хочаце, калі трэба вам, то працуйце. Павыбірайце ўсе кавалкі цэглы, што вам трапяцца, складвайце ля куратніка...

Мірон меў сон. Так сказаў нам назаўтра: „Я меў сон", быццам цікавы каляровы фільм пра незвычайнае бачыў. Слухалі мы з разяўленымі ратамі, як Мірон пераканаўча апісвае з'яўленне ў сне дзеда Дарафея.

— Дзед у белым плашчы, у шапцы сіняй, кнігу трымаў пад пахай. Вывеў мяне з дому, завёў у агарод, сказаў капаць крок ад бэзу. Вось тут. Пальцам мне паказаў.

— Адкуль жа ведае на тым свеце дзед, у якім месцы капаць? — усміхнулася я скептычна. — Калі б ведаў тады, калі жыў, то сам пачаў бы раскопваць.

— Я думаю, што ў небе сустрэў дзеда Аніську, ад яго і даведаўся! — Мірон у гэтым быў упэўнены.

— Баба Маланея, як злавалася на дзеда, казала, што ў пекла яго возьмуць, а там і згарыць саўсім! — узгадаў Шурычак, якому таксама часта пагражалі пякельным агнём за збыткі.

— А дзе тое пекла! Мой дзед быў добры, пайшоў напэўна ў неба! У Бібліі меў так напісана! — Мірона ўгнявіла такая дзедава перспектыва.

Вярнуліся мы са школы раней, узяліся за свае прылады. Капалі памаленьку, варочалі чорную ўрадлівую зямлю, выбіралі абломкі і смецце. Павячэраўшы, быццам бы пайшлі спаць, а ў змрок узяліся капаць пад бэзам, у добра намечаным месцы, тым разам углыб.

Я першая палезла ва ўсё больш глыбокую яму. Працавалі мы заўзята, і дол быў на здзіў глыбокі як на малечыя сілы. Мая рыдлёўка стукнула ў нешта глуха. Скінулі мне зверху матычку. Зубы матычкі зачапіліся ў штосьці калмата-доўгае і цяжкое. Я стаіла дыханне, у скронях малацілa кроў. Над ямай, над маёю галавой у вузкім праsвеце мігцелі зоркі. Мае сябры цяжка дыхалі, саплі, хтосьці шморгаў носам, на мае валасы і за каўнер сыпаўся пясок.

— Ёсць скарб! — закрычала я не сваім голасам. — Ёсць! Мірон, чаму батарэйка не свеціць?!

Мірон пабег па фанар у хлеў, але ніяк мы не маглі разгледзець у тую ноч тое, на што натрапілі.

Раніцай збеглася ўся вёска. Дзядзька Вася з маім татам і дзядзькам Стасем, бацькам Шурычка, вывалаклі з ямы скрыню, загорнутую ў збуцвелыя мяшкі, разбілі века.

— Э, тут якоесь г..., толькі старыя кнігі, звіткі, мапы, усё сыплецца! — абтрос свае нагавіцы і выцер рукі Міронаў татка. — Ніякага скарбу тут няма. Хто вам дазволіў агарод марнаваць?! — схапіў мяне за каўнер а з другога боку ўчапіўся за белую Міронаву чупрыну.

І зноў увалілі куфар у яму і засыпалі жоўтым пяском.

Мне ўдалося ўварваць кавалачак старонкі. Было там напісана алоўкам па-руску — я ведала ўжо „рускія" літары з урокаў беларускай мовы — нешта пра Бельск. Я тады яшчэ ніколі ў Бельску не была.

Сёння, калі заязджаю ў гэты горад, ходзяць за мною думкі пра дзеда Дарафея і ягонага, дзедавага, дзеда Аніську, зруйнаваныя і спаленыя хаты, схаваныя кнігі і думкі, узброеных у лапаты людзей, што, паплёўваючы ў далоні, зямлёй завалілі наш скарб.

**Міра Лукша**



### Атаман Перагуд і яго партызаншчына

Паважаная рэдакцыя!

Са спазненнем на два месяцы трапіў да мяне нумар „Нівы" ад 10 верасня г.г. з маім артыкулам ды ўспамінамі атамана Перагуда. Нягледзячы на рэдакцыйны каментарый, я ўдзячны вам за гэтую публікацыю. Спадзяюся, што яшчэ жывыя людзі, якія мелі кантакты з перагудаўцамі, але ці захочуць яны ўспамінаць пра сваю барацьбу з польскімі нацыяналістамі? Сёння гэта ў Польшчы калі не небяспечна, дык непрыемна. Навошта лішнія клопаты на старасці гадоў?..

Калі ў польскіх архівах вы не знаходзіце дакументаў пра атрад Перагуда, дык яны ёсць у Менску! Я не ствараю міфаў і не такі я даверлівы, як вы лічыце. У 1993—94 г.г. працаваў у Нацыянальным архіве ў Менску, атрымаўшы нават допуск да сакрэтных дакументаў. Аднак дазволілі мне прагледзець толькі мінімум тых спраў, што я хацеў. Ад дырэктара архіва даведаўся наступнае: Беларуская народная партызанка сапраўды была і гэта не выдумка Сяргея Хмары. У архіве ёсць дакументы аб дзейнасці БНП, аб яе канферэнцыях, аб сувязях з „Палескай Сеччу" УПА атамана Тараса Бульбы і канешне, пра яе знішчэнне і апанаванне чэкістамі (паведамленні ў Маскву). На маё пытанне аб дазволе паглядзець гэтыя дакументы, я атрымаў адмоўны адказ. Матывіроўка такая: яны вывучаюць гэтыя матэрыялы, з імі трэба папрацаваць, а я магу даць у прэсе ацэнку БНП, якая будзе разыходзіцца з канцэпцыяй архівістаў. Навошта ім гэта трэба?! Тое самае яны гаварылі і пра „Чорнага Ката" ген. Вітушкі: „мы вывучаем, трэба быць асцярожным у ацэнках".

Я доўга чакаў, калі яны штосьці надрукуюць, але дарэмна! Матэрыял той небяспечны для прарасейскага курсу беларускага кіраўніцтва, а заслужаныя гісторыкі не хочуць рызыкаваць цёплымі месцамі... Прачытайце хоць бы кнігу ката Рыгора Лінькова „Война в тылу врага" (Масква, 1947, 1948 і г.д.), дзе ён цынічна апісвае, як асабіста страляў камандзіраў народнае партызанкі. Жывыя яшчэ сведкі, якія гэта памятаюць!

Вось у 1994 г. я і пачаў пісаць пра БНП, пра „Чорнага Ката" ў „Пагоні", „Свободных новостях", „За волю". Але гісторыкі па-ранейшаму маўчаць. Але рана ці позна архівы адчыняцца і мне не трэба будзе тлумачыць сваім сябрам, што я не займаюся стварэннем міфаў. Проста я пішу пра тое, пра што яшчэ на Бацькаўшчыне ніхто не пісаў.

Даруйце, што надакучыў вам сваёй гісторыяй.

Віншую з угодкамі Слуцкага паўстання!

З павагаю

**Сяргей Ёрш**

**Ад рэдактара:**

Паважаны спадар Сяргей, атамана Перагуда ніколі на Беласточчыне не было. Бяспека, міліцыя, адміністрацыя і партыйныя структуры стварылі даволі дакладную дакументацыю пасляваеннага перыяду, але нідзе няма следу пра пабыўку ўзброенай групы, якая прыйшла з Усходу і, супрацоўнічаючы з органамі мясцовай улады, змагалася з атрадамі „Бурага" ці „Лупашкі". Апошнім часам друкуюцца таксама дакументы, створаныя камандзірамі гэтых атрадаў. Але ніхто з іх не ўспамінае пра змаганне з нейкімі беларускімі партызанамі. Усе ў сваіх дзённіках ці рапартах пішуць, што беластоцкіх беларусаў як сімпатыкаў камунізму проста расстрэльвалі. Ніхто таксама з мясцовых партыйных актывістаў, арганізатараў міліцыі не ўспамінаюць пра факты, якія Вы прадстаўляеце, хаця быў час, калі гэтыя людзі ахвотна гаварылі пра сваю заангажаванасць у працэс замацавання народнай улады на Беласточчыне, дабаўляючы часам больш, чым у сапраўднасці бачылі і рабілі.

Але пачакайма на адкрыццё савецкіх архіваў і гэтым самым на праўду пра Сяргея Хмару. Магчыма дачакаемся.

**Яўген Міранoвіч**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXXIV**

Мой бацька досыць шырока выказваўся на тэму перспектыў абароны беларускасці на ўсходняй частцы Беласточчыны. Гаворачы па-другому, займаўся нашай усходне-беластоцкай беларускай радзімай. Аднак займаючыся яе будучыняй, рысаваў даволі змрочную карціну, якая вынікала з яго бязвер'я ў канструктыўнае беларускае нацыянальнае мысленне, а тым больш — дзеянне:

„Я табе ўжэ гаварыў аб том, як гэто рускія салдаты і беларускія бежанцы накінуліся на цыстэрны з атрутаю. Ну, то ты можэ падумаў, што тое, што я там бачыў, то ўвогуле ні касаецца таго, што ў нас цяпер. От дзело ў том, што касаецца і то вельмі моцно касаецца. От, скажэм, што дзесь тут у нас сегодня сталасё штось такое, што хтось прывалок цыстэрну з спіртом або якімсь там свінствам і нарабіў у ёй прабоінаў. То, як ты думаеш, што было б? А было б тое, што молніено разышлосё б ізвесціе аб гэтом па ўсіх вёсках і тут зляцелася б тысячу п'яніц і пілі б таксамо як пілі тыя пядзесят лет таму назад. Таксамо пілі б і здыхалі б як тады. Скажу, нават табе больш. Цяпер з гэтым дзелом то яшчэ горш чым было калісь. Калісь то адзін п'яніца быў на кілька вёсак, а п'яніца баба то была адна можэ на трыццаць вёсак. А як гэто дзело выглядае сягодня? У каждой вёсцы куча п'яніц і мужчын, і бабаў і баюся, што будзе іх з кождым роком усё больш і больш. То ты мне скажы, якое будушчае будзе ў нашае родзіны, калі будзе ў нас толькі п'яніц? Ніякого будушчаго ў нас ні будзе! Гэто ест адно дзело. А яшчэ ест і другое дзело. Я табе калісь гаварыў, што мне пасля вайны жыд сказаў, каб мы ні ўцікалі ў Савецкі Саюз, бо нова Польшча то ўжэ ні будзе такая несправедліва для беларусаў, як была перад вайною. І бачыш, халера, жыд аказаўся разумным чалавеком. То ж ён усё прадвідзіў. Ты толькі паглядзі, што зрабіласё з беларусамі ў гэтуй цэлой людовой Польшчы. Пачці што ўсе міліцыянты і каменданты ў нас тут кругом — беларусы. Учыцеля і кіраўнікі школоў — беларусы, секратары парціі — беларусы, ужэнднікі ў гмінах і войты — беларусы. А колькі беларусаў і ахвіцэроў, і інжынероў, і вучоных. А колькі учнёў і студэнтоў? Ні пералічыш. То ж такого ніколі ў гісторыі ні было. За царa і за тае Польшчы то беларусы ў нас толькі мужыкамі былі і больш нічым.

То ты бачыш, якую сегодне сілу, здавалася б, мают беларусы? Ну, а якая з гэтаго карысць? Ну панятно, што тые, што палучылі ўсе гэты работы, то добрэ жывут. Можно сказаці, што жывут па-панску. Але чы яны штось робят для нашае беларускае родзіны? Нічого ні робят. То ж кругом бацькі дамагаюцца, каб іх дзеці ў школах па-беларуску ні вучыліся, гаворат, што гэты беларускі язык то толькі калечыт дзіцей і перашкаджае ім жыці между палякамі. Бо палякі як толькі вычуют, што ў кагось ест беларускі выгавор, то гаворат, што гэто кацап. Значыцца, хтось горшы. То ты мне скажы, хто тут вінаваты — польске гасударство чы мы самы? Мы вінаваты, а ні гасударство. То ж гасударство нам дало ўсё, што мы толькі хацелі. Калі разабрацца, то ўся ўласць тут у нас у руках беларусаў. То чы яны ўсе не маглі б з'ехацца і пастанавіць, каб тут у нас аж зазвінело ад гэтае беларускасці? Вы ж там робіце якіесь з'езды, але што з гэтаго палучаецца? А ніщто! Як ні было тут гэтае настаяшчае беларускасці так і німа. І я думаю, што яе і ні будзе. Бо мы, бачыш, такі ўжэ народ, што служым усім, толькі сабе служыці ні ўмеем. І так было заўшэ, так ест і так будзе ў будушчым. Ну яно добрэ, што выходзіт беларуска газэта і кніжачкі выходзят. Але ты думаеш як зыдзецца наш народ, от так вечаром або ў нідзелю, то людзі гаворат аб нашуй родзіне. От той-сёй штось там скажэ, але каб хтось сказаў, от, давайце зробім тут тое чы сёе для беларускасці, то ты думаеш людзі паддзяржалі б? Не паддзяржалі б! А найгоршэ то ест тое, што многіе з тых, хто дарваўсе да пасадоў чы навукі, то ўвогуле ні гаворат ужэ на нашом. Пшэкают па-польску. Ну то дзе ён табе, гаворачы па-польску, будзе штось тут саздаваці беларускае? Ні толькі ні будзе саздаваці, але і тое што ест то нагамі задопчэ. Думаю, што калі б дзесь там у Польшчы вярнуўся маладыя паляк і з жыцелямі сваё вёскі пачаў гаварыці па-руску чы па-беларуску, то яны яго затаўклі б і канцы ў воду. А ў нас прыездзкае і гаворыт па-чужому, а ўсе маўчат, а некаторые то нават ему па-польску падтаківают. От бачыш — якіе мы. Якіе мы, такая і наша родзіна".

**Алесь Барскі**




## Наш характар

Як жыць?
Гарэлкі не піць,
Не мацярыцца;
Лепш Богу памаліцца.
Не красць
І не ілгаць,
Не быць крывадушнікам
А волі народа паслушнікам.
Любіць свой народ
Як свой род
І ўсё чалавецтва:
Старых і маленствы...
Любіць спакой
І не ісці не разбой,
Мець у сэрцы мір
А не гуляшчы вір.
Быць справядлівым
І патрыётам праўдзівым.
Добрасумленнасць таксама
Душэўная праграма.
Любіць мову родную
Заўсёды непадводную:
І правапіс, і граматыку,
І матэматыку.
Не баяцца знявагі,
Мець больш адвагі,
Даць адпор
І смела ісці на двор.
Не баяцца
А за работу брацца,
Падняць свой прэстыж
І не ляцець уніз —
Падымацца ўгару
Нават у жару.
Бараніць свой гонар і чэсць
І ў чужое не лезць.
Чужы нас не паратуе
А толькі зазлуе.
Бараніце адзін другога,
Гэта асноўная дарога.
На сваіх аддавайце галасы —
Гэта залатыя каласы.
Свой начальнік — шчасце,
Чужынец — няшчасце.
Сваёй мовы не цурайцесь,
У пачынах праслаўляйцесь.
Маем чым і пахваліцца,
Што каму мо і не сніцца.
Выйшлі мы на людзей,
Праца — наш дабрадзей.
Беларус за дзякуй
Дасць начлег і пазнаняку,
Не прагоніць з хаты
Хаця сам небагаты.

**Мікалай Панфілюк**

## Хто нарадзіўся ў снежні?

1. Сур'ёзны, адароны вялікімі магчымасцямі развіцця. Спакойны, церпялівы.
2. Вынаходлівы, рашучы — мае моцны характар. Часта заглыбляецца ў свае думкі.
3. Дасціпны, тонкі, таленавіты. Лёгка і складна выражае свае думкі.
4. Справядлівы, разважлівы — мае дыпламатычныя здольнасці.
5. Зручны, мае мастацкія здольнасці і любіць кампанію адменнага полу.
6. Патрапіць стрымаць абяцанні.
7. Спрытны арганізатар, прадпрымальны.
8. Настойлівы, абараняе свае ідэалы.
9. Ашчадны, карысталюбівы, самастойны.
10. Усебаковы. Праяўляе зацікаўленне да ўсякіх галін жыцця.
11. Спрытны, уражлівы — не любіць фальшывых абставін.
12. Яго характар дазваляе пераадолець жыццёвыя абставіны.
13. Розум яго востры, сатырычны, валодае высокай інтуіцыяй.
14. Прагне здабыць папулярнасць.
15. Даверлівы, часта ўлюбляецца, чуллівы.
16. Любіць спорт. Жыве доўга і мае здаровы арганізм. З любоўю ставіцца да асяроддзя.
17. Вясёлы, дасціпны, хутка кантактуецца з асяроддзем.
18. Адкрыты, высакародны, любіць свабоду, лад, парадак і гармонію.
19. Самыя вялікія вартасці ў жыцці — вольнасць і незалежнасць. Жыццё яго актыўнае і напоўненае рызыкай.
20. Славалюбівы, быстры, практычны — імкнецца заняць добрую пасаду.

*Апрацаваў Янка Целушэцкі*

## Снежань...

... апошні месяц каляндарнага года, пачатак зімы. Назва паходзіць ад слова снег — у гэты час утвараецца ўстойлівае снегавое покрыва. *Декабрь* у рускай мове паходзіць ад лацінскага *december* (дзесяты). А вось як гучыць назва гэтага месяца ў іншых мовах: ва ўкраінскай — *грудень*, у польскай — *grudzień*, у чэшскай — *prosinec*, у славацкай — *december*, у стараславянскай — *студенъ*, у верхнелужыцкай — *hodownik*, у славенскай — *gruden*, у сербахарвацкай — *децембар, просинац* і ў балгарскай ды македонскай — *декември*.

Найбольшая вышыня Сонца над гарызонтам 12,7°, у снежні яно праходзіць праз пункт зімовага сонцастаяння. Сярэдняя тэмпература паветра — -2—-6°С. Адносная вільготнасць паветра 88—91%. Вільготных дзён 21—27, ясных у сярэднім 1—2, пахмурных — 20—23. Стварaецца трывалае снегавое покрыва, якое дасягае 6—10 см, пры адлізе яно можа поўнасцю сыходзіць. Глебы прамярзаюць на глыбіню 20—30 см. Пакрываюцца лёдам рэкі, ставы і азёры. Інтэнсіўнасць ападкаў малая.

*(апр. яц)*



## Экскурсія ў Будапешт

З выпадку Міжнароднага дня турызму і 75-й гадавіны існавання фірмы Orbis дырэктар нашага бюро зафундаваў нам, апрача грашовых узнагарод, трохдзённую экскурсію ў Будапешт. Аўтокарам з Ольштына ў Варшаву паехала нас 25 асоб; там, на аэрадроме Акэнпе прайшлі тамажную праверку і селі на самалёт венгерскай авіялініі MALEV. У самалёце частавалі нас чаем, кавай і піражным. Пасля паўтарагадзіннага лёту прызямліліся ў аэрапорце Ферыхедзь 2. Да самалёта пад'ехаў аўтобус і павёз нас на тамажную праверку. Мяне затрымалі, бо мею ў кішэні ключы і металічныя польскія грошы. Калі іх паказаў, пайшоў далей, у аўтобус, які завёз нас у пяціпаверхову гасцініцу Аквінкум, у якой 355 кандыцыяніраваных пакояў. У гасцініцы можна таксама паплаваць у басейне і агледзець стрыптыз. Смачна абедалі і вячэралі ў рэстаране, дзе іграў цыганскі ансамбль. Горад аглядалі з аўтобуса: масты на Дунаі, якіх у Будапешце восем, выспу Маргарыты, Парламент, Музей мастацтва, Рыбацкі бастыён, горы Гелерта і Замкавую. У апошні дзень экскурсіі запрасілі нас у кафэ, дзе каву сервіраваў сам шэф. Усё так хутка мінула, што не агледзеўся калі апынуліся на аэрадроме. У Варшаву ляцелі пры прыгожым сонечным надвор'і на вышыні 8 тыс. метраў: белая хмара пад самалётам выглядала як снег. Экскурсія пакінула ў мяне незабыўныя ўражанні.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Хаця конь у наш час, можна лічыць, аджыў ужо сваё, бо замяніў яго трактар, а конныя дрожкі — таксі, дык я ў сваім сне вярнулася да часоў, калі ён быў неабходны як сродак транспарту. І пачынаецца мой сон, што еду я на кані вярхом. А далей ужо брычкаю. Брычка шыкарная і ў ёй сядзіць старэйшая жанчына, якая працуе на тым жа прадпрыемстве, што і я. Жанчына гэтая ў нас самы „чалавечы" чалавек — вельмі мілая, уражлівая, гатовая ў любы момант дапамагчы кожнаму, ратаваць у бядзе — проста жыве для іншых. А гэта ж у наш час вялікае шчасце ўбачыць такога чалавека, а што ўжо гаварыць, калі ты з ім штодзень на рабоце. І вось яна ў маім сне — цэнтральная фігура. Сядзіць у той брычцы, а я побач з ёю. Выглядае яна прыгожа і багата. Высокая, стройная. Апранута ў вельмі прыгожую доўгую сукенку і такі ж жакет. Сукенка была цёмная, пертканая ледзь заўважальнай тоненькай сярэбранай ніткай. Я глядзела і захаплялася яе выглядам, яе багаццем... Яна стала багатай дзякуючы нейкаму багаццю, якое атрымала ад кагосьці. Ад каго — я не ведала і мяне гэта зусім не цікавіла. Мне было прыемна сядзець каля яе ў той шыкарнай брычцы. І так ехалі мы па вуліцах Беластока, ды так і скончыўся мой сон.

**Людміла**

Людміла! Нейкая справа, якая не давала табе жыць, нарэшце будзе аформлена. Аб гэтым сведчыць не толькі прыгажосць і багацце той тваёй мілай старэйшай супрацоўніцы, але і тое, што ты ехала з ёю на брычцы, а яшчэ раней — вярхом на кані. Перамога! У нейкай нялёгкай справе ўсё выйдзе па-твойму.

**АСТРОН**

## Віраванка

1. горад на паўднёва-ўсходніх акраінах Белавежскай пушчы, 2. прыкладваецца да ран, 3. машына, якая лятае, 4. ручны інструмент да, напр., кляпання, 5. груган, 6. нежанаты мужчына, 7. абласны расейскі горад (таксама рака), пра які спявалі „Песняры", 8. лясны звярок з пушыстым хвастом, 9. пустазелле, якое расце ў сырых месцах, 10. спецыяліст па аграноміі, 11. суправаджаецца чханнем, 12. абжора.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 42 н-ра:**

**Гарызантальна:** эпас, напеў, угавор, клык, выраб, Расіні, Кляшчэлі, школа, казначэй, паладзін, Вятка, мікрафон, Тырана, дошка, Руіс, курорт, Вісла, араб.

**Вертыкальна:** задыяк, Геракл, палешукі, Сукрэ, Нансі, поўня, бландзін, аленявод, шэпт, Орля, учот, айва, Антаніна, Яновіч, куколь, чыгун, матор, карта.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу з Беластока.**

## Троцкі — вораг Сталіна

Як гэта магло стацца, што самы блізкі супрацоўнік Леніна — Леў Троцкі — аказаўся ворагам для ўсяго сусветнага камунізму? Нарадзіўся Троцкі (сапраўднае прозвішча Лейба Бранштэйн) у 1879 г. у сям'і памешчыка на Украіне. Ужо ў маладосці ўключыўся ён у сацыялістычны рух, у выніку чаго не здабыў вышэйшай адукацыі, хоць некалькі гадоў быў студэнтам. Троцкі быў здольным агітатарам, ведаў некалькі замежных моў. У час рэвалюцыі 1905 г. быў старшынёю Пецярбургскага савета рабочых дэпутатаў. У канфлікце бальшавікоў з меншавікамі заняў незалежную пазіцыю. Быў на эміграцыі, з якой вярнуўся ў ліпені 1917 г. Займаў высокія пасады ў бальшавіцкай іерархіі, кіраваў кастрычніцкім пераваротам 1917 г. Ва ўрадзе Леніна быў камісарам замежных спраў. Супрацівіўся Брэсцкаму трактату і па той прычыне быў адстаўлены са свае пасады. Троцкі арганізаваў Чырвоную Армію і, трэба лічыць, гэта ён быў галоўным аўтарам перамогі рэвалюцыі ў Расеі. Калі б Троцкі загінуў у грамадзянскай вайне, ён адразу заняў бы ў гісторыі Савецкага Саюза месца героя. Але так не сталася. Пасля смерці Леніна — пачатак 1924 г. — у Расіі ўсчалася жорсткая барацьба за ўладу. Троцкі не праявіў здольнасці ў закулісных розыгрышах і інтрыгах. У 1924 г. быў звольнены з пасады камісара абароны, а два гады пазней — выкінуты з палітычнага бюро, неўзабаве таксама з партыі. У 1929 г. быў пазбаўлены савецкага грамадзянства і падаўся ў выгнанне. Супрацоўнікі Сталіна, якія дапамагалі яму пазбыцца Троцкага, загінулі ад куляў НКУС у 1937 г.

Леў Троцкі быў фанатыкам рэвалюцыі, ён верыў, што яе дух пранікне ў іншыя краіны ды запаліць увесь свет. Быў ён таксама выдатным публіцыстам і палітычным пісьменнікам — на эміграцыі прарочыў пра Сталіна і яго характар. І таму савецкая разведка завербавала іспанскага камуніста — Рамона Меркадэру дэль Рыо, — які пранік у круг блізкіх супрацоўнікаў Троцкага на эміграцыі ў Мексіцы. 20 жніўня 1940 г. Меркадэра смяротна параніў Троцкага, за што быў засуджаны на 20 гадоў турмы. Троцкі неўзабаве памёр. Прыяцелі паставілі на яго магіле сціплы помнік з выявай сярпа і молата.

У Маскве прызналі забойцу Троцкага званне героя Савецкага Саюза. Медаль яму ўручыў Нікіта Хрушчоў, калі Меркадэра, адбыўшы зняволенасць, прыехаў у 1960 г. у Савецкі Саюз. Пасля некалькіх гадоў Меркадэра выехаў на Кубу і ягоны далейшы лёс невядомы.

Леў Троцкі ўвесь гэты час прадстаўляўся афіцыйнай савецкай прапагандай як здраднік рэвалюцыі і яе вораг. Змена наступіла толькі ў час гарбачоўскай перабудовы, якая поўнасцю Троцкага рэабілітавала, прызнаючы ў ім здольнага палітыка і рэвалюцыйнага дзеяча.

**Мікалай Панфілюк**

## Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917--132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Выбары і дзеці

Выбарчая кампанія не абмінула нават і дзяцей. Між іншым, з увагі на выбарчыя тэлепраграмы, мяняўся час вячэрняй казкі — „Дабраноцкі”.

Мой сын, якому тры з паловаю года, аднаго вечара ў канчатковым ужо этапе кампаніі, пабачыўшы ў тэлевізары Валэнсу, ускрыкнуў: „Валэнса на прэзідэнта”! Калі паказаўся Квасьнеўскі, разгубіўся, а потым даў роўныя шанцы абодвум прэтэндэнтам: „Валэнса і Квасьнеўскі на прэзідэнта”!

На другі дзень, раніцай жонка спытала яго: „То за каго ты, сынку, будзеш галасаваць”? Ён ужо забыўся на вячэрнія дэкларацыі, думаў, думаў і назваў свайго старэйшага на год сябра: „За Міхала Далінскага”. Калі жонка растлумачыла, што, на жаль, за Міхала не можа, ён адказаў: „Тады за цябе, мамулю”. А калі выявілася, што і за маму не можа, выбары перасталі яго цікавіць. „Я яшчэ замалы, каб галасаваць”, — знайшоў ён выйсце з гэтай сітуацыі.

**М.В.**

# Сентэнцыі

Самотнасць — паўзе днямі
і начамі побач жыцця.

* * *

Бойся паводкі слоў,
можаш у ёй утапіцца.

* * *

Калі хочаш нешта сказаць,
скажы толькі тое,
аб чым іншыя не гаварылі.

* * *

Баліць тое, што наносіць раны,
а не чым раніць.

* * *

Пераўвасабленне — гэта гонка
на ўяўны кубак ад смерці да смерці.

**Барыс Руско**

# Я ЯШЧЭ ПАБЕГАЮ

Селянін араў поле валамі. Да абеду зрабіў вельмі мала з таго, што запланаваў. Хаця сорамна было вяртацца на абед пасля такой працы, але есці хацелася і валы трэба было напаіць.

Дома пачаў ён расказваць жонцы як мала поля заараў, таму што валы памалу ходзяць. Тады любімая кажа яму: „Памаж ім тэрпенцінам пад хвастом, і зараз хутчэй пойдуць”. Мужык так і зрабіў. Праз дзве гадзіны жонка зайшла на поле. Валы бегаюць, а мужык ледзь нагамі цягне. „Не дам ужо рады, не паспяваю”, — крычыць жонцы, уподбежкі ідучы за плугам. „Пашмаруй мой мілы і сабе, тады і твае ногі лягчэйшымі стануць”, — зноў параіла яму жонка.

Вяртаецца мужык вечарам з валамі і гаворыць жонцы: „Выпрагай жывёлу, а я яшчэ пабегаю”.

**Аляксандр Барташэвіч**







Мал. А. Козіча

# Проксюмбург

Лопнула наша цярпенне, браткі! Сіл не стала слухаць балбатуноў. Спачатку — чырвоных, а цяпер — трохколерных. З тымі, чырвонымі, чырванець даводзілася за сваё жыццё. А з гэтымі і пачырванееш, і пабялееш, а пасля і пасінееш! І вось сабралі нашы мужыкі, хто яшчэ не спіўся, сход у маёй хаце. Усё па-добраму і вырашылі. Назбіралі бярданак з патронамі. Па месцах баявой славы адправілі дзетак — яны нам яшчэ пяць гранат і кулямёт „Максім” прывалаклі. Пасля да старшыні сельсавета і старшыні калгаса ганцоў паслалі. Тыя і прывялі іх цішком. Мы ім і кажам: — Так і так, маўляў, наш сход пастанавіў: хочаце — айда з намі ў светлае жыццё. А не хочаце — правальвайце, каб смуту за вочы не сеялі. Вось, маўляў, вам пад'ёмных сабралі 5 000 рублёў і па адной гусі ў дарогу.

Старшыня сельсавета кінуўся да нас, плача, цалуе, крычыць:

— Нарэшце — то гордасць у мужыкоў векавая прачнулася. Я — з вамі!

А старшыня калгаса скокнуў праз акно і рвануў, прыгнуўшыся ў раён. Закладваць нас. Мы яго даганяць не сталі. А пайшлі і свае калгасныя межы абазначылі. Слупамі. На кожным напісалі: „Мяжа суверэннай вёскі Проксютава... Хто без запытання сунецца — атрымае па сапатцы”. А тройку мужыкоў з бярданкамі і сабакамі накіравалі абходзіць тэрыторыю і страляць соллю па парушальніках.

У раён паслалі ультыматум. Маўляў, хопіць, пакуражыліся. Аддзяляемся. Раім не адрываць ад працы і не трывожыць... А пасольства-консульства можаце адкрыць у сельсавеце. Гэта для перагавораў. Калі ўзнікнуць пытанні па гандлю. І пачалі араць і засейваць зямлю. Былі, вядома, і замахі. Спрабавалі з танкамі да нас заехаць. Але мы — тэлеграму ў ААН. А баб у хлеў заперлі, сенам аблажылі. А самі на стрэхах з бярданкамі, гранатамі і „Максімам”. Маўляў, будзе вайна. А калі не здужаем — то ўсе, як адзін... і баб спалім. Каб на далейшае ганьбаванне гадам не дасталіся!

Тыя і адвялі войскі...

І выдалі мы загад: маўляў, у плане эксперымента няхай Проксютава фермерствам пракорміцца. Калі не здохне. Ну, мы бульбу, масла, яйкі, зяляніну, пшаніцу, буракі і ўсе астатнія лішкі прадалі за мяжу. Не, не за валюту. За рублі. Купілі ўсё неабходнае для школы, клуба, бальніцы. Увялі страхавую медыцыну, цагельны заводзік, піваварны пабудавалі, дарогі graвіем засыпалі.

А зараз, у 2020 годзе ў нас накшталт другога Люксембурга. З усімі выцякаючымі вынікамі. Нават казіно ёсць. І валюта свая. „ПРОК” называецца. А з Расіяй гандлюем па-ранейшаму. Хаця іх рублі бярэм неахвотна. Там ужо мільён за долар ідзе. І па два мільёны за наш „ПРОК”.

Іншы раз, калі выпадае свабодная ад работы хвіліна, ловім іх па радыё. Слухаем. Вельмі ўжо яны цікава спрачаюцца адзін з адным: даваць зямлю сялянам, або не прыватызаваць!

**Валерый Салянік**

*Пераклад з рускай*
*Валерыя Бабея*

# Смех у санаторыі
## або „Даўціпы” з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Дарагая мамачка, не магу з мужам вытрымаць: ён хацеў бы рабіць, што яму спадабаецца.

— Разумею: хочаш падаць на развод...

— У ніякім выпадку! Тады то ён ужо рабіў бы, што яму толькі заманулася б!

* * *

— Куды так бяжыш?

— Дадому: трэба абед зварыць.

— А жонка што — хворая?

— Не, галодная.

* * *

— Чула я, што твой муж у бальніцы. Як ён сябе адчувае?

— Дзякую, ужо лепш, але, як я яго ведаю, хутка з гэтай бальніцы не выйдзе.

— Чаму?

— Бачыла медсястру, якая ім апякуецца, у міні-спадніччы.

* * *

Суддзя да жанчыны, падаўшай на развод:

— Ці гэта не зайздрасць прычынай вашага рашэння?

— Не, высокі суд! Я проста не магу заснуць, калі так усе трое ляжам у ложак.

* * *

Муж з жонкай выбраліся на шпацыр у заапарк:

— Паглядзі, даражэнькі, такі прыгожы з ільва звер, а сядзіць у клетцы.

— Ён прынамсі можа рыкаць уволю.

* * *

— Чую, каханая, што ты мяне здрадзіла...

— Нічога не можаш чуць! Я ж узяла душ...

* * *

Прыходзіць Магда ў прыхадскі дом і гаворыць ксяндзу, што хоча выспавядацца.

— Ну, добра, дачка: расказвай як зграшыла.

— Пайшла да Колі дадому і ён мяне распрануў...

Ксёндз распрануў Магду і пытае:

— Ці гэта так было?

— Так, а пасля сам распрануўся і лёг са мною...

Ксёндз паўтарыў усё расказанае і пытае:

— А што было пазней?

— А пазней аказалася, што Коля заразіўся ад мяне сіфілісам.




Дарагос Сэрцайка! Ніхто з нас не любіць людскіх анамалій. Неяк людзі найбольш хацелі б, каб усё было ў норме, сярэдняе, так сказаць. Каб не быў чалавек ані занадта высокі, ані занізкі, ані худы, ані занадта тоўсты. А што ўжо гаварыць пра тое, каб усё было на сваім месцы. Быў у мяне сябра, у якога было шэсць пальцаў. Фактычна нічога страшнага там не было: проста на вялікім пальцы левай рукі быў прычэплены быццам адростак яшчэ аднаго пальца. Як галінка на дрэве.

Праўду кажучы, такую бяду лекары маглі лёгка ліквідаваць, але хлапец, відаць, баяўся лекараў больш, чым шостага пальца на руцэ. І так з ім жыў, хаваючы руку ад людзей. Часамі мы падсмейваліся з яго, што трус ён, але аднойчы нехта яму сказаў: „Чаго ты хаваеш сваю руку?! Ты ж павінен ганарыцца сваёй арыгінальнасцю”. „А я і ганаруся”, — сказаў хлапец і сарамліва апусціў вочы.

У кожным разе, хаця быў даволі прыгожы, гэты сябра занадта вялікім поспехам у дзяўчат не карыстаўся. Не то што выклікаў ён да сябе агіду, але здаваўся нам нейкім нетутэйшым чалавекам.

Жыццё аднак бывае каварнае. Год таму назад у нашым асяроддзі паявіўся новы хлапец, а дакладней было б сказаць, мужчына. Быў ён ужо жанаты і разведзены ў свае трыццаць гадоў. Доўгі час працаваў у Швецыі, меў поўныя кішэні грошай і дзяўчаты проста ліплі да яго. Спадабаўся ён і мне. Але не скажу, што з-за яго грошай. Быў надзвычай прыемны ў суадносінах і, трэба прызнаць, даволі прыгожы. Спачатку ў нас былі толькі сяброўскія адносіны. Пасля неяк так здарылася, што на нашым прадпрыемстве арганізавалі экскурсію па Польшчы. Усе мае сябры і сяброўкі з працы ўцешыліся, што могуць крыху „праветрыцца”.

Ездзілі мы па розных гарадах, дзе затрымліваліся на пару дзён. Начавалі ў недарагіх гатэлях, а ўдзень рабілі мясцовыя экскурсіі. Я меркавала, што буду начаваць з адной сяброўкай, але на трэці дзень ад нашага выезду выйшла так, што я не вярнулася нанач ад таго хлапца. Ён быў багацейшы і ўзяў асобны пакой. Я зразумела, што закахалася. Ужо нават не на ўсе экскурсіі мы ездзілі. Было нам так добра, што шкада было марнаваць час.

І тут пачынаецца мая праблема. У першую ноч я нічога не заўважыла. Убачыла ўсё тады, калі мы не паехалі на экскурсію і засталіся ў пасцелі амаль на цэлы дзень. У хлапца было шэсць цыцак замест дзвюх. Божа, у першы момант мяне закалаціла, але ў наступныя дні я ўжо нават перастала заўважаць гэты атавізм. Мне з гэтым чалавекам было добра.

Вярнулася я дахаты з пачуццём няпэўнага закахання. Аднак жа мы сустракаліся далей. Ніколі не думала, што ў маім жыцці здарыцца такое. Калісьці, мушу табе прызнацца, той хлапец з шостым пальцам быў мне нейкі праціўны. І можа я б трактавала ўсё звычайна, каб гэты хлапец паводзіў сябе спакайней. Пры кожнай нагодзе ён загадваў мне аглядаць яго цыцкі, выстаўляўся, быццам напаказ. Зусім інакш, чым той хлапец з шасцю пальцамі, ён не хаваўся са сваёй анамаліяй, а наадварот, лічыў сябе ледзь не пасланцом ад Бога. Загадваў гладзіць сябе па цыцках, любіў, каб я захаплялася імі. І тады мне рабілася моташна.

І вось ужо месяц, як я перастала з ім сустракацца. Ну не магу, зразумей мяне, Сэрцайка, сам ён давёў да гэтага. Можа б я да яго прывыкла і ўсё было б добра, калі б ён так не падкрэсліваў сваю нязвыкласць. Для мяне гэта была проста хвароба, ненармальнасць. А мо варта перамагчы сябе і вярнуцца да яго? Чалавек гэты надта багаты і мог бы быць добрым мужам.

**Варвара**

Варвара! Ты маеш намер перамагаць сябе дзеля грошай? Я не хачу сказаць, што гэты хлапец горшы за нас, але напэўна менш шчаслівы. Як ты сказала, усе мы любім сярэдненькіх. Іх мы лічым нармальнымі людзьмі. Гэты хлапец, бадай, так выпінаўся з гэтымі сваімі цыцкамі, бо так у сапраўднасці саромеўся гэтага. Але, думаю, да ўсяго можна прывыкнуць. Усе мы — людзі.

**СЭРЦАЙКА**